Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 2 снежня 1988 г. № 48 (3458) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## Умацоўваць перабудову канкрэтнымі справамі

### Сустрэчы Я. Я. Сакалова з рабочымі-метрабудаўцамі

Дэмакратызацыя і публічнасць маюць на ўвазе шырокі абмен думкамі па самых складаных праблемах, пошук найлепшых шляхоў іх вырашэння, актыўны ўдзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў, якія закранаюць інтарэсы многіх людзей.

24 лістапада першы сакратар ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў сустрэўся з будаўнікамі другой чаргі Мінскага метрапалітэна. Ён пабываў на станцыі «Купалаўская», пазнаёміўся з асаблівасцямі яе збудавання, гутарыў з кіраўнікамі і рабочымі-метрабудаўцамі. Яны расказалі аб ходзе будаўніцтва, аб цяжкасцях, з якімі ім даводзіцца сутыкацца, ведучы праходку ва ўмовах шчыльнай гарадской забудовы, гаварылі аб недахопах у забеспячэнні матэрыяламі, адставанні некаторых субпадрадных арганізацый ад графіка работ, разлічанага на датэрміновы пуск лініі — да 9 мая 1990 года.

Метрабудаўцы пазнаёмілі Я. Я. Сакалова з навінкамі, якія яны рыхтуюцца прымяніць на ўкладцы пуцей для зніжэння вібрацыі і шуму ў прылягаючых да трасы дамах.

Аб'ектам асаблівай увагі грамадскасці ў апошні час стала будучая станцыя метро «Няміга», якая ўзводзіцца ў непасрэднай блізкасці ад Мінскага замчышча. Прама на пляцоўцы, ля месца раскопу археолагаў, а затым у Верхнім горадзе, ля сабора і іншых старажытных будынкаў, адбылася дзелавая, грунтоўная гутарка з вучонымі, праекціроўшчыкамі, кіраўнікамі Міністэрства культуры БССР, выканкомаў гарадскога і Цэнтральнага раённага Саветаў, будаўнічых арганізацый, прадстаўнікоў грамадскасці. Разгледжаны розныя варыянты правядзення работ, гарантуючых захаванасць будынкаў пры праходжанні пад імі тунеляў, а таксама стварэння на месцы замчышча археалагічнага музея, рэканструкцыі і рэстаўрацыі Верхняга горада.

Я. Я. Сакалоў пабываў таксама на станцыі «Трактаразаводская», дзе адбылася дзелавая сустрэча і працяглая гутарка з рабочымі-метрабудаўцамі.

У гутарках удзельнічалі першы сакратар Мінскага гаркома КПБ У. Р. Галко, старшыня гарвыканкома У. І. Міхасёў.

Падрабязная справаздача аб сустрэчы надрукавана ў рэспубліканскіх штодзённых газетах.

## Сесія Вярхоўнага Савета СССР

29 лістапада ў Вялікім Крамлёўскім палацы пачала работу нечарговая дванаццатая сесія Вярхоўнага Савета СССР адзінаццатага склікання.

Пасяджэнне адкрыў Старшыня Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР А. Э. Вос.

Аднагалосна была зацверджана павестка дня сесіі, прапанаваная Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР і адобраная Саветамі Старэйшын Савета Саюза і Савета Нацыянальнасцей, а таксама парадак яе работы. На абмеркаванне былі вынесены наступныя пытанні:

1. Аб мерах па ажыццяўленню палітычнай рэформы ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва.

2. Аб выбарах народных дэпутатаў СССР.

Пытанні ўнесены Цэнтральным Камітэтам КПСС і Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР.

З дакладам «Да поўнаўладдзя Саветаў і стварэння сацыялістычнай прававой дзяржавы» на сесіі выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў.

Даклад быў выслуханы з увагай і сустрэты працяглымі апладысментамі. Затым пачалося абмеркаванне даклада, якое было прадоўжана 30 лістапада. Усяго ў спрэчках выступіла 37 чалавек. Дэпутаты, якія не змаглі выступіць на сесіі, але мелі прапановы і заўвагі па абмяркоўваемых пытаннях, маглі перадаць іх у прэзідыум сесіі.

Завяршыўшы напярэдадні спрэчкі па пытанню аб мерах па ажыццяўленню палітычнай рэформы ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва, дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР правялі 1 снежня чацвёртае сумеснае пасяджэнне Савета Саюза і Савета Нацыянальнасцей.

Выступіўшы на сесіі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС, старшыня Камісіі заканадаўчых меркаванняў Савета Саюза Г. П. Разумоўскі паведаміў аб папраўках і дапаўненнях, якія Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і камісіі заканадаўчых меркаванняў палат прапануюць унесці ў абмеркаваныя законапраекты, улічваючы выказаныя дэпутатамі прапановы.

З заключным словам выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў.

Затым дэпутаты прыступілі да працэдуры прыняцця дакументаў сесіі. Раздзельным галасаваннем па палатах дэпутаты прынялі Закон СССР «Аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) СССР». Была прынята таксама пастанова аб парадку ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона.

Раздзельным галасаваннем па палатах сесія прыняла Закон СССР «Аб выбарах народных дэпутатаў СССР».

Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову «Аб далейшых кроках па ажыццяўленню палітычнай рэформы ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва».

Па другому пытанню парадку дня — аб выбарах народных дэпутатаў СССР — на сесіі выступіў старшыня ВЦСПС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР С. А. Шалаеў.

Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову «Аб назначэнні выбараў народных дэпутатаў СССР». Выбары народных дэпутатаў СССР назначаны на нядзелю, 26 сакавіка 1989 года.

Утворана Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах народных дэпутатаў СССР у саставе 35 чалавек. Яе старшыня — член ЦК КПСС У. П. Арлоў, намеснікі старшыні— рэктар Кіеўскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці Д. Б. Галаўко і першы намеснік старшыні Камітэта савецкіх жанчын А. В. Фядулава, сакратар камісіі — намеснік загадчыка Аддзела партыйнага будаўніцтва і кадравай работы ЦК КПСС Ю. І. Рыжоў.

У ходзе сесіі група дэпутатаў ад Армянскай ССР унесла запыт аб становішчы ў Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласці і вакол яе.

З адказам на гэты запыт выступіў прадстаўнік ЦК КПСС і Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР у НКАВ дэпутат Вольскі А. І. Вярхоўны Савет прыняў пастанову па данаму пытанню.

На гэтым нечарговая дванаццатая сесія Вярхоўнага Савета СССР адзінаццатага склікання завяршыла работу.

## ЦІ АБЫДЗЕМСЯ «ДАДАТКОВЫМІ МЕРАМІ»?

### З пасяджэння калегіі Міністэрства народнай адукацыі БССР

23 лістапада гэтага года адбылося пасяджэнне калегіі Міністэрства народнай адукацыі БССР, дзе разглядалася пытанне «Аб дадатковых мерах па рэалізацыі прынцыпу двухмоўя ў навучальных установах рэспублікі». Характэрнай асаблівасцю гэтага пасяджэння было тое, што вялося яно... на беларускай мове. Па-беларуску гаварыў старшыня калегіі, міністр М. І. Дзямчук, намеснікі міністра Л. К. Сухнат і Г. А. Бутрым, загадчык галоўнага ўпраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі М. М. Круглей. Пасля яго даклада прамоўцы, што выступалі ў спрэчках, шчыра захапляліся высакародным «перабудовачным» учынкам Максіма Максімавіча, які ўпершыню за 15 гадоў (калі не памыляюся) сваёй работы ў органах асветы Беларусі асмеліўся загаварыць з трыбуны на роднай мове.

Чым жа абумоўлена прыняцце дадатковых мер? Адбываецца далейшае змяншэнне колькасці навучэнцаў беларускамоўных школ, паколькі знаходзяцца яны пераважна ў сельскай мясцовасці. Калі ў 1986/87гг. усяго ў беларускіх школах вучылася 328,3 тыс. дзяцей (23,1 %), то ў 1988/89 — 296,3 (20,6 %). Не павялічваецца колькасць школ з беларускай мовай навучання ў гарадской мясцовасці. Адсутнічаюць такія школы ў Мінску і абласных гарадах, у раённых цэнтрах. За два гады адкрыта толькі 22 першыя класы з беларускай мовай навучання.

Няма сэнсу пералічваць усе іншыя цяжкасці і недахопы ў выкладанні беларускай мовы і літаратуры ў навучальных установах рэспублікі. Пра гэта не адзін раз пісалася на старонках штотыднёвіка і другіх рэспубліканскіх выданняў.

Якія ж меры прымаюцца, каб выправіць становішча? Асноўным пытаннем на пасяджэнні калегіі акурат і было абмеркаванне плана мерапрыемстваў, які выпрацавала галоўнае ўпраўленне. План гэты складаецца з 32 пунктаў і ў скарочаным пераказе прадугледжвае наступнае.

Павялічыць колькасць школ і класаў з паглыбленым вывучэннем роднай мовы і літаратуры. Забяспечыць у навучальна-выхаваўчых установах захаванне адзінага моўнага і арфаграфічнага рэжыму ў навучальнай і выхаваўчай рабоце, справаводстве. На аддзяленнях беларускай мовы і літаратуры філфакаў педінстытутаў і педпатокаў універсітэтаў прадугледзець выкладанне большасці дысцыплін на беларускай мове, а таксама павялічыць колькасць гадзін на вывучэнне беларускай ва ўсіх названых установах. З 1989/90 навучальнага года ў згаданых навучальных установах і ў педвучылішчах увесці ўступны эк-

(Заканчэнне на стар. 2—3).

*Надзённыя радкі*

**Алесь ЛІСІЦЫН**

# ФУНКЦЫЯНЕРЫ

## 1. Я

**Мне не капае за каўнер.**
**Я —**
**ўзаконены функцыянер!**
**На ўваходзе міліцыянер**
**казырае: я —**
**функцыянер!**
**На стале кіпа розных папер:**
**я складаю іх —**
**функцыянер!**
**Знаю,**
**ды не прымаю мер,**
**я —**
**ўніклівы функцыянер!**
**У мяне да ўсяго недавер,**
**я на тое й функцыянер!**
**Мне не страшны сумлення суд —**
**я адказнасці не нясу.**
**Крычыце,**
**што не трэба цяпер**
**я —**
**шматвопытны функцыянер?**
**Я не вешаю галавы:**
**ёсць інструкцыі —**
**я жывы!**

## 2. Мы

**Дзе пад шыльдай шырокія дзверы,**
**там заселі мы —**
**функцыянеры!**
**Нам павінны заўсёды верыць.**
**Мы —**
**шаноўныя функцыянеры!**
**Наша слова —**
**як праведны звон.**
**Наш загад —**
**гэта заўтра закон.**
**Вы маўкліва згаджайцеся,**
**людзі.**
**Што мы схочам,**
**то так і будзе!**

## 3. Пагроза

**Вы шляце нам цяпер праклён,**
**бо паверылі ў перабудовы плён.**
**Скарачаеце штаты...**
**Ну што ж,**
**пачакаем гадоў і сто.**
**Зберажом на далейшае нервы.**
**Мы трывушчыя —**
**функцыянеры!**
**Нашы дзеткі растуць,**
**што Атланты,**
**і разумныя ўсе,**
**як іх таты,**
**і прыгожанькія,**
**нібы мамы.**
**Кожны з іх —**
**самы-самы...**
**Сёння школьнікі і піянеры,**
**яны —**
**будучыя функцыянеры.**
**Папярэджваем:**
**прыйдзе час,**
**і яны пераплюнуць нас.**
**Возьмуць цвёрда уладу ў рукі**
**нашы будучыя унукі!**
**Даасушаць яны Палессе,**
**забароняць матуліны песні.**
**Зганьбяць матчына светлае слова.**
**Адракуцца ад роднае мовы...**
**Планы ўсюды звядуць да валу**
**І складуць не адну завалу**
**на дарозе вашай да мэты**
**(функцыянеры на гэта мэтры!)**
**Ды наробяць скрозь дэфіцытаў**
**на машыны і матацыклы,**
**на запалкі і на каўбасы,**
**на бялізну і на паласы...**
**Папярэджваем вельмі строга:**
**не трывожце нас гэтак доўга!**
**Незаслужаныя ільготы**
**саступіце,**
**і ўсё тут!**
**Узаконіў іх мудры Сталін.**
**А вы хочаце,**
**каб аддалі**
**іх за так мы і без нічога!**
**Лепш пабойцеся,**
**грэшныя,**
**бога!**
**Ну якія вы гуманісты?**
**(Сярод нас жа ёсць камуністы!)**
**Так не дбаюць пра чалавека!**

## 4. Голас народа

**«Ёсць цвікі і труна?**
**Робім века!»**

*Экалогія: праблемы, сітуацыі, канфлікты*

**Міхась ВЫШЫНСКІ**

# Чым дыхаеш, горад?

ЖЫЦЦЁ забіваюць не толькі са зброі. Нячутна, павольна, знешне нібы непрыкметна, але няўхільна забіваюць яго дымнымі «стрэламі» з труб цеплацэнтраляў, хімічных і нехімічных заводаў, атрутай выхлапных труб аўтамабіляў. І гэта не проста метафара, а бязлітасная рэальнасць.

І вось камандзіроўка ў Магілёў—горад, які вядомы на ўсю краіну не толькі сваёй прамысловай прадукцыяй, але і на рэдкасць забруджаным паветрам.

Паводле расказу Святланы Пятроўны Рудневай, начальніка рэспубліканскага цэнтра па кантролі за забруджваннем атмасферы, і Міхаіла Іванавіча Стукалава, старшага інспектара па ахове атмасфернага паветра па Магілёўскай вобласці, у гэтым горадзе сярэднегадовы выкід таксікатаў у тры разы перавышае нормы МДК (межы дапушчальнай канцэнтрацыі).

Магілёўскія медыкі (скажам, Л. М. Забіран і І. В. Лесечка, галоўныя ўрачы гарадской і абласных дзіцячых бальніц) звязвалі павелічэнне анкалагічных, сардэчна-сасудзістых, кішэчных і алергічных захворванняў з тэхнагеннымі і антрапагеннымі забруджваннямі экалагічнага асяроддзя.

Мы нярэдка гаворым, што маральная вышыня чалавека (як грамадства ў цэлым) вымяраецца яго адносінамі да жанчыны. Духоўная вышыня кожнага грамадзяніна вызначаецца, на маю думку, і адносінамі яго да прыроды, да сваёй прамаці-зямлі. Экалагічная культура, выхаванне яе ў чалавеку сталі найважнейшым клопатам нашага часу. Тут у нас адна альтэрнатыва, адзін выбар: гарманічнае супрацоўніцтва з прыродай. Усе з гэтым згодны, ды, на жаль, часцей на словах. На справе ж пераважаюць эгаістычна-прагматычныя мэты. Найперш у такіх незычліўцаў прыроды, як чыноўнікі-бюракраты. І, вядома ж, многіх гаспадарнікаў. Яны схіляюць галовы перад яго «вялікасцю планам», перад матэрыяльнымі прыбыткамі, як не моляцца на іх, нават калі ўсё гэта абыходзіцца дарагой цаной—здароўем горада, яго жыхароў.

**Пра гэта ў свой час пісала «Літаратура і мастацтва» («ЛіМ», «Аперацыя комін», 11 мая 1984 г.). Пра якія канкрэтныя факты гаварылася ў артыкуле? Ці змянілася што да лепшага за чатыры гады? Гэтыя пытанні займалі-турбавалі мяне. Тым больш, што Магілёў — горад, які ў красавіцкай 1988 г. пастанове ЦК Кампартыі Беларусі «Аб мерах па паляпшэнню экалагічнай абстаноўкі ў г. Наваполацку», названы другім, пасля Наваполацка, небяспечным па экалагічнай сітуацыі.**

**Напачатку дзве лічбы, названыя С. Рудневай: з усіх 99 буйных і дробных заводаў і прадпрыемстваў Магілёва — 68 небяспечныя ў экалагічных адносінах, «ціхія забойцы» прыроды, а, значыць, і людзей. Пра пяць з іх гаварылася ў згаданай публікацыі «Аперацыя комін»: завод штучнага валакна імя Куйбышава (ЗШВ), хімкамбінат «Зара», аўтазавод імя Кірава, камбінат будаўнічых матэрыялаў і металургічны завод імя Мяснікова. Два з іх — ЗШВ і металургічны завод, як пісалася ў артыкуле, — атручвальнікі з атручвальнікаў. Хоць, праўду кажучы, і астатнія прадпрыемствы не адстаюць у гэтай сваёй ганебнай справе.**

**Што асабліва абурыла аўтара «Аперацыі комін» на тым жа заводзе штучнага валакна? Чытаю: «У мінулым годзе завод неаднойчы палохаў Магілёў сваімі выкідамі серавугляроду і серавадароду. У розных кутках горада былі зафіксаваны асабліва небяспечныя канцэнтрацыі гэтай атруты». Аўтар заўважыў, што шкодныя дымы на прадпрыемстве ачышчаюцца толькі на ўчастку віскознага валакна. У іншых жа цэхах — дзе вырабляюць віскозную тэкстыльную нітку, цэлафан, абалонкі для сасісак — неачышчаны дым выпускаецца проста ў паветра. Гэта недзе каля чатырох тысяч тон серавугляроду і серавадароду ў год.**

А цяпер? Ідучы да завода імя Куйбышава, яшчэ здаля заўважыў на яго тэрыторыі як не цэлы лес рознакаліберных камінoў. Над адным, самым высокім комінам цеплацэнтралі, трапятаўся бухматы і даўжэзны «лісіны хвост». Было ціха, і дым прыгожымі хмарамі слаўся над вуліцамі, жылымі дамамі. Тут дарэчы ці недарэчы згадалася недзе прачытаная нататка пра тое, што сёння насіць вусы і бараду небяспечна—у іх актыўна асядаюць розныя паветраныя аэразолі, якія, натуральна, удыхаюцца гаспадаром такой акрасы. Згадалася і другое: атрутнага дыму, хімічных злучэнняў не вытрымлівае, крышыцца нават камень. Што ўжо тут гаварыць пра жывы арганізм, такі чуйны, датклівы. Да дымнай атруты немагчыма прыстасавацца, звыкнуцца з ёй.

—Зноў? Ох, ужо гэтыя праверальшчыкі, карэспандэнты, — сумна заўздыхала сакратарка. — Усё да нас, усё чэпляцца... А завод як завод—не горшы ў аб'яднанні «Хімвалакно»... А мо і лепшы: мы хоць больш-менш натуральны шоўк выпускаем. Каб не новае аб'яднанне, спакайней было б...

«Ну вось: старая песня,—падумаў я. — Ці першы раз даводзіцца чуць такое ад службовых асоб розных рангаў,—нястрымнае жаданне прыхаваць праўду, абараніць гонар свайго прадпрыемства, хоць ён добра-такі падмочаны, скампраметаваны. Не імкненне разабрацца ў сутнасці справы, каб яе палепшыць, а звальваць віну на другія прадпрыемствы, другія службовыя асобы. Цікава, што скажа, як павядзе сябе дырэктар завода?»

—Дык не ў валакне справа, паважаная,—у таксікатах, што суправаджаюць яго выраб, выкідваюцца ў паветра,—не стрываў я, з прыкрасцю падумаўшы, як, відаць, прагне тут спакою кіраўніцтва, таго, што мяжуе са злачынным раўнадушшам да свайго і чужога здароўя.

—Таксікаты? Пра што гэта вы?—здзіўлена пырхнула падмаляванымі брывамі дзяўчына. —Але, пачакайце... Міхаіл Андрэевіч (ён сёння ў нас за дырэктара) вам усё раскажа...

Заходжу ў кабінет Міхаіла Андрэевіча Цітова, галоўнага інжынера ЗШВ імя Куйбышава. Яшчэ на паўдарозе да стала мяне ўвішна перастрэў сярэдняга росту чалавек, ветлівы, інтэлігентнага выгляду.

— А ведаеце, у нас на заводзе нядаўна пачаў дзейнічаць новы цэх,—адразу, як толькі пазнаёміліся, з непрыхаванай радасцю загаварыў М. Цітоў,—цэх рэгенерацыі серавадароду, проста—газаачыстка. Уявіце: прадукцыі яна не вырабляе, а... ўлаўлівае яе з паветра. Злоўленыя шкодныя выкіды перарабляюцца ў зыходную сыравіну і адпраўляюцца на паўторнае выкарыстанне.

—Значыць, задача новай газаачысткі адна—ахоўваць прыроду ад таксічных выкідаў з іншых вытворчых пляцовак?

—Так,—адразу падхоплівае Міхаіл Андрэевіч,—ачышчаць забруджанае паветра. Агульны кошт газаўстаноўкі—14 мільёнаў рублёў...

Што і гаварыць, такая навіна была для мяне зусім нечаканай. Але неўзабаве яна пачала ліняць, цьмець.

—Першы комплекс цэха па ачыстцы паветра ад серавадароду трэба было ўключыць у работу яшчэ летась,—працягваў галоўны інжынер,—але будаўніцтва аб'екта было сарвана, доўга значылася ў спісе другарадных. Як у заказчыкаў (ВА «Хімвалакно», генеральны дырэктар т. Яфанаў), так і ў падрадчыкаў (будтрэст № 12, кіраўнік т. Аверкін). Толькі сёлета ў красавіку газаачыстка пачала дзейнічаць.

—Міхаіл Андрэевіч, чатыры гады назад, як пісаў мой калега, ваш завод выкідваў у неба штодня 25 тон атруты. Што ж за гэты час змянілася?

—Многае. Вось самі разважце: з прадзільнага цэха і цэха шыцця, якія абслугоўвае наша газаачыстка, раней вылятала ў комін за год каля 500 тон серавадароду, цяпер з іх 150 тон мы ўлоўліваем.

—Выходзіць, усяго трыццаць працэнтаў?..

—Так. Астатнюю частку з цягам часу мы таксама абясшкодзім.

—Так то яно так, але калі, Міхаіл Андрэевіч, пачне працаваць другі комплекс газаачысткі?

—Думаю, у наступным годзе. Ён прызначаецца для ачысткі паветра яшчэ аднаго таксіката серавугляроду. Нагрузка на гэту газаачыстку будзе яшчэ большай. Віскозна-тэкстыльныя, цэлафанавыя цэхі і цэхі сасісачнай абалонкі за год выкідваюць яго ў паветраны акіян аж 2300 тон. На жаль, і тут газаачыстка будзе няпоўнай—прыкладна працэнтаў на 65. Тут таксама трэба мяняць маральна і тэхнічна састарэлыя машыны на навейшыя. Але распрацаваць абсталяванне, якое найбольш поўна адпавядала б патрабаванням сённяшняга дня, нялёгка. Усе гэтыя работы запланаваны Мінхімпромам і закончацца да 1995 года.

—Вось як?! Праз сем гадоў? А пакуль...

—А што ж вы хацелі? Аб'ём работы такі, што хоць спаць не кладзіся. Цяпер нашы шкодныя выкіды на горад складаюць чатыры з паловай працэнты ад усіх таксічных выкідаў гарадскіх прадпрыемстваў. Словам, у нормах МДК. Перавышэнне можа здарыцца пад час непагадзі, і то на нашай тэрыторыі, на санітарна-ахоўнай зоне.

—Санітарная зона?! Якая яна ў вас, санітарная зона?

—Невялікая. Не хапае вольнай зямлі, не тое што на галоўнай пляцоўцы ВА «Хімвалакно». Завод наш як не самы стары ў Магілёве, а праектанты так спланавалі новыя мікраёны, што прадпрыемства проста ўрасло ў горад. Аднак, думаю, нам удасца пашырыць санітарную зону яшчэ на адзін кіламетр. Для гэтага прыйдзецца знесці драўляныя дамы на суседняй вуліцы. Для іх жыхароў мы пабудавалі ўжо 192-кватэрны жылы дом.

Тым спякотным маёвым днём я пабываў і на самім вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно», у якое ўваходзіць «шаўковая фабрыка».

**Прысеў у зялёным скверыку, задумаўся: што я ўрэшце ведаў пра гэтае хімаб'яднанне? Тое, што яно прадпрыемства новае, пабудавана ў сямідзесятых гадах. Але ўжо славутае і ў нас, у Беларусі, і за межамі яе. Успомніў артыкул «Советской Белоруссии» «Смог па-магілёўску» менавіта пра тое, як забруджвае атмасфернае паветра «Хімвалакно», і гнеўную водпаведзь на крытыку сталічных журналістаў на старонках «Магілёўскай праўды» генеральнага дырэктара ВА «Хімвалакно» І. Яфанава і першага сакратара гаркома КПБ У. Фурсава. Даволі хутка, аператыўна выступілі. (Вось бы такой увішнасці ім у вырашэнні экалагічных праблем горада!) Высокапасадныя асобы з ледзь прыхаваным гневам абвінавачвалі аўтараў артыкула «ў перабольшанні фактаў».**

**Але ж факты — упартая рэч. Хіба не былі сарваны работы па стварэнні санітарнай зоны вакол аб'яднання? Адпавядае ісціне і тое, што «Хімвалакно» сістэматычна атручвае паветраны басейн у Магілёве.**

**(Заканчэнне на стар. 13).**

**Якой будзе наша літаратура заўтра! Што спрыяе і што замінае творчаму і грамадзянскаму станаўленню літаратурнай моладзі! Гэтыя пытанні ніколі не выпадалі з поля зроку нашай пісьменніцкай арганізацыі. Чарговы пленум праўлення СП БССР, які мае адбыцца ў снежні, якраз і прысвечаны праблемам маладых. Да гэтай падзеі мы прымеркавалі палемічныя нататкі Г. Каржанеўскай і спадзяёмся прадоўжыць гаворку ў наступным годзе.**

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

# ЗАБЫТАЕ ІМЯ,

## або Роздум пасля аднаго вечара

**Палемічныя нататкі**

НА ВЕЧАРЫ знаёмстваў у Доме творчасці «Іслач» выступалі пісьменнікі з Ленінграда. Яны расказвалі пра рознае і па-рознаму. Як інакш? У кожнага свая біяграфія, свая творчая індывідуальнасць. Але адна рыса зблізкала іх — непадобныя — выступленні, надавала ім асаблівую прывабнасць: усе яны згадвалі пра сваіх літаратурных настаўнікаў. «Мой стары», «нашы старыя» — з гонарам і непадробным замілаваннем вымаўлялі яны. У «старых» былі энцыклапедычныя веды і фантастычныя бібліятэкі, былі дзівацтвы — зусім даравальныя, быў пісьменніцкі аўтарытэт. Яны рабілі крытычныя разборы твораў, спрыялі іх друкаванню, давалі чытаць кнігі са сваіх бібліятэк, а здаралася — і грошы, нават збіралі выхаванцаў у сябе дома. Паасобку ўсё гэта як быццам рэч звычайная. Галоўны ж вынік — стварэнне творчай атмасферы, нябачнай, але асязальнай ауры, у якой фарміраваўся і выспяваў паўнацэнны талент.

**Расказвае празаік Ніна Катэрлі. Калі выйшла ў свет яе першая кніга, пазваніў Веніямін Каверын. Ён выгаварыў дэбютантцы за два ўключаныя ў змест апавяданні, якія яму не падабаліся і, на яго погляд, псавалі кнігу. Назаўтра зноў пазваніў, каб суцешыць: маўляў, не бяры да галавы. Вось Тынянаў калісьці так мог зазлаваць, што шпурляў рукапіс на стол, і лісткі рассыпаліся па падлозе.**

**У Каверына, прыкмячаю я, таксама быў НАСТАЎНІК... Што ж, Ленінград —горад даўніх культурных традыцый, а гэта павінна дабратворна ўплываць і на літаратурныя норавы. Я слухала ленінградцаў з міжвольнай зайздрасцю, з марным намаганнем прыпомніць, каго б я ці мае аднагодкі маглі назваць «сваім старым». На жаль, нямногім пашчасціла зведаць той духоўны кантакт і далікатную апеку, якія і з'яўляюцца сутнасцю настаўніцтва.**

**«Я ніколі не бачыў, каб Купала хадзіў адзін — вечна з ім цэлы хвост маладых. (...) Твар шчаслівы, харошы...» — успамінае Янка Скрыган. А вось яшчэ адно сведчанне — Канстанцыі Буйло: «Часта прысылаў ён мне лісты, прасіў даць больш вершаў. (...) Пісаў, што працуе над маёй кніжкай з такім жа замілаваннем, як над сваёй. Гэта акрыляла мяне, дапамагала пісаць. Я. Купала ставіўся так да ўсіх паэтаў, якія працавалі пад яго кіраўніцтвам».**

**«Радасна ўспамінаць добрых і чулых людзей, якія шчодра дзяліліся сваімі ведамі, вопытам, цяплом свайго сэрца», — пісаў Аркадзь Маўзон аб рэжысёры тэатра імя Коласа М. А. Міцкевічу. Для Янкі Сіпакова такім чалавекам быў Сяргей Дзяргай. Яго эсэ з простай і паважлівай назвай — «Сяргей Сцяпанавіч» — гэта даніна ўдзячнай памяці, словам сплачаны доўг. Чым яшчэ, акрамя Памяці, можна аддзячыць настаўніку?**

**Ёсць, ёсць і ў нас пісьменнікі, да якіх хінецца моладзь. Хацелася б прывесці іх імёны, ды, баюся, усіх не назавеш, а выстройваць «абойму» па грамадскай вазе і вядомасці, як гэта часта робіцца, будзе недарэчы. Хай яны даруюць мне...**

І ўсё ж у сённяшняй іерархіі «ўзростаў, заслуг, пасад і званняў» (С. Кавалёў) маладым няўтульна, зябка, і яны досыць крытычна ставяцца да парнаскіх жыхароў. Яны інтуітыўна адчуваюць, хто толькі пачынае цвярдзець, а хто забранзавеў канчаткова, а значыць, прыхінуўшыся, аб яго можна лоб пабіць. На жаль, менавіта ад апошніх залежаць і літаратурнае надвор'е, і нават — непрадказальным чынам — чалавечыя лёсы.

У лістах, што прыходзяць у рэдакцыю, падчас выказваецца затоеная, а то і адкрытая крыўда на старэйшых. Ім, маўляў, спрыялі папярэднікі, а мы, чаму мы не маем падтрымкі? А дзе крыўда, там і злосць, там і абразы. Сталыя, заслужаныя ў сваю чаргу не могуць зразумець: адкуль пратэст, адкуль непавага, за што? Нічым, здаецца, сябе не заплямілі ў застойны час, а толькі «сабралі маральны і матэрыяльны ўраджай» (У. Гусеў, «Октябрь», 1987, № 9). На думку гэтага ж крытыка, у літаратурным жыцці, як і ў самой літаратуры, ёсць ідэальныя героі, а ёсць вечна вінаватыя. Сёння ідэальныя героі аб'явілі, што яны — «заўсёдныя пакутнікі, хаця ніхто не ведае, дзе, калі і за што яны пацярпелі».

На словах, асабліва з трыбуны, і клопат пра літаратурную змену, і разуменне таго, што будучыня літаратуры нараджаецца сёння. На справе — насцярожанасць, непрыманне незалежнасці думак і меркаванняў, селекцыя па свайму густу і жорсткі табель аб рангах. Гэта, аднак жа, мала адпавядае сённяшнім пераменам і зусім не адпавядае грамадзянскай пазіцыі нашых старэйшых таварышаў, іх асабістай мужнасці ў справах дзяржаўных.

«Калі гаварыць аб адносінах да маладых, то мы адчуваем нейкую, бюракратычную па паходжанні, нелюбоў да сябе і недаверлівасць», — піша празаік з Арэнбурга А. Красноў («ЛО», 1988, № 4). Задумваюцца і пра лёс саракагадовых. Чаму яны «так цяжка і з такімі стратамі ішлі і ідуць да сваёй сталасці?» — пытаецца Ст. Золатцаў («ЛГ» ад 3.08.88 г.). Аўтар прыходзіць да вываду, што віной усяму — раўнадушша.

Я цытую, як вы заўважылі, рускіх літаратараў: яны першымі апаматаліся і забілі трывогу, не жадаючы, каб наступнае пакаленне вырасла «тщедушным и слабосильным».

Было б няслушна з майго боку выводзіць усе праблемы маладой літаратуры з адсутнасці цесных кантактаў паміж пакаленнямі. Усё куды складаней! Можна назваць з дзесятак яркіх імён у нашай літаратуры і давесці: з імі ніхто не няньчыўся, яны сталелі, мужнелі самі, талент заўсёды праб'е сабе дарогу і г. д. Так, прабіваліся і будуць прабівацца — як парасткі з-пад асфальту. Ды чагосьці істотнага ўсё ж не ставацьме творчаму жыццю. Хто не меў настаўнікаў, вельмі верагодна — не будзе мець і вучняў...

Аднойчы на бюро творчай секцыі пайшла гаворка аб тым, каб прыняць у СП маладога літаратара з горада N. «Але ж ён не звяртаецца да нас, — сказаў старшыня секцыі. — Што мы, шукаць яго павінны?» Паспрабавала запярэчыць: пры Мележы, кажу, шукалі, я ў свой час таксама нікуды сама не звярталася. Мае словы павіслі ў паветры. І сапраўды: калі тое было — пры Мележы!.. Цяпер іншыя правілы гульні. Не хочаш — не гуляй...

Факт нібыта дробны, прыватны. Але як рака складаецца з кропель, так літаратурнае жыццё—з такіх вось і іншых фактаў.

Што і казаць, дзесяцігоддзі грамадскага спаду не надта развівалі пачуццё локця (і гэта тычыцца не толькі творчага асяроддзя).

Папярэднія, сталінскія часы — часы ўсеагульнай падазронасці, страху і даносаў — яшчэ менш спрыялі кансалідацыі пакаленняў. А прагалы ў шэрагах інтэлігенцыі — хіба яны пройдуць бясследна? З сумам даводзіцца канстатаваць, што такія паняцці, як велікадушнасць, высакароднасць, становяцца амаль архаічнымі ў нашым жыцці.

Пра пакаленне, праглынутае застоем, усё часцей пішуць прадстаўнікі гэтага пакалення — саракагадовыя. Тыя ж, з чыёй ласкі яны і дасюль ходзяць у хлапечых штоніках, у большасці сваёй робяць выгляд, што нічога не адбылося. Богу — богава, а кесару — кесарава... Тоўсты часопіс «Дружба народов» надрукаваў, нарэшце, вершы Алеся Разанава. Чым не падарунак да «круглага» юбілею?

Мяркуючы па ўсім, ці не тое самае чакае і тых, хто ідзе за намі. Акрамя непамерных амбіцый і непаважлівасці з боку «Тутэйшых», даўно б ужо пара было прыкмеціць чалавечую і творчую драму ненармальна доўгай, вымушанай маладосці. Замест гэтага, праследуючы нейкія свае мэты і задачы, іх робяць казырнай картай у групавых звадах. А што ж самі «Тутэйшыя»? Як яны, адстойваючы нацыянальныя ідэі, праяўляюць сябе ў літаратурным побыце, як адносяцца да таварышаў па пяру?

Сам факт стварэння таварыства, пра што многа пісалася, сведчыць пра цяжкасці росту і фарміравання маладой літаратурнай змены. Канфліктная сітуацыя ўзнікла найперш паміж імі і апаратам Саюза пісьменнікаў, што звязана з няпэўным статусам «Тутэйшых», іх паўафіцыйнасцю. Наступ на бастыёны СП быў рашучым, але беспаспяховым. І тады «Тутэйшыя» сваю нерастрачаную энергію не доўга думаючы накіравалі на маладых літаратараў. (Глядзіце публікацыю А. Казловіча ў «ЛГ» за 10 жніўня г. г.) Іх літаральна выводзяць з сябе «бязлікія кнігі, салідныя партфелі» і нават... лёсы (?!). Маўляў, занадта гладзенькія, падобныя. І то праўда: цяпер жа не ездзяць «варанкі», адкуль тут узяцца такому каштоўнаму для творцы драматызму? Калі ж пад «гладзенькімі лёсамі» маюцца на ўвазе больш-менш спрыяльныя ўмовы для друкавання, то гэта яшчэ не падстава для праведнага гневу. Акрамя таго, ненавідзячы канфармізм, зусім неабавязкова блытаць вынікі з прычынай, шукаць «стрэлачніка» ды пускаць у абіходак такія каларытныя слоўцы, як «прыкарытнікі» ці «литературные прихлебатели». У падобных выказваннях мне бачыцца не толькі ўласцівы юнацтву максімалізм, колькі праявы негатыўнай нацыянальнай рысы, якая выяўляецца ў празмернай рэўнасці да суседа, калегі, супрацоўніка-суайчынніка...

Што ж да «бязлікіх кніг», то яны існавалі ва ўсе часы — як выгадны фон для кніг адметных, яркіх. Дык навошта ўжо так размахваць кулакамі? Зрэшты, у такіх паводзінах няма нічога дзіўнага. Калі належнае прыходзіць позна, гэта спараджае комплексы і агрэсіўнасць, скажу болей — жорсткасць. Няма засцярогі, каб не ўкусіць хаця «грудзі мамкі нашай» у дачыненні да мэтраў, няма звычайнай чалавечай далікатнасці. І хоць прачулае пушкінскае слоўка не да ўсіх можна аднесці, але ж галоўнае — што кім зроблена як творцам. Кожнаму і заўсёды трэба памятаць: у роднай літаратуры былі дасягненні да нас, будуць і пасля нас. І яны ўжо выспяваюць — непрыкметна і нябачна, каб аднойчы матэрыялізавацца і ўзрадаваць.

**Выйшлі нарэшце кніжкі Анатоля Сыса і Адама Глобуса, светлыя, пранізлівыя вершы друкуе Соф'я Шах (вось каго прынялі бы ў СП без кнігі!), з гітарай ідзе ў класы і аўдыторыі Сяргей Сокалаў-Воюш, чорны хлеб крытыкі мяняе на *«пшанічную» прозу* Сяргей Дубавец... Жыццё працягваецца.**

**Гадоў пяць таму на Каралішчавіцкім семінары мне давялося разглядаць вершы маладога паэта з «глыбінкі». Узровень іх мяне прыемна здзівіў. Я гаварыла, памятаю, пры абмеркаванні, што гэта гатовы рукапіс, што яго можна хоць сёння здаваць у выдавецтва. Мае словы аўтар успрыняў без асаблівага энтузіязму. Не выключана, што ён ужо меў горкі вопыт пачаткоўца. Ці піша ён зараз? Дзе друкуецца? Ці дайшла справа да выдавецтва? Я не запомніла яго імя.**

# Да маладых без паблажлівасці

Яшчэ заўчора «Тутэйшых» многія не прызнавалі, учора ім не надта верылі, і таварыства заняло наступальна-абарончую пазіцыю ў адносінах да Саюза пісьменнікаў. Сёння лёд непаразуменняў на вачах растае. І прадстаўнік «Тутэйшых» Адам Глобус, спаважна, як і належыць сур'ёзнаму літаратару, уключаецца ў *размову са старэйшымі пісьменнікамі* на пасяджэнні сакратарыята праўлення СП. Пасяджэнне гэтае было прысвечана абмеркаванню маладой паэзіі, што надрукавана на старонках часопіса «Маладосць», выйшла асобнымі кніжкамі ў бібліятэцы гэтага часопіса. У абмеркаванні ўдзельнічалі Максім Танк, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Пятрусь Макаль, Анатоль Грачанікаў, Яўгенія Янішчыц, Яўген Міклашэўскі, Любоў Тарасюк, Валянціна Аколава, а таксама Тамара Чабан, якая зрабіла грунтоўны аналіз маладой паэзіі часопіса.

Толькі на працягу апошняга года на старонках «Маладосці» было каля дваццаці дэбютаў. Побач з колькасным заўважаецца і якасны рост. Маладыя паэты выходзяць да новых гарызонтаў, у іх творах заўважаецца, па словах Т. Чабан, імкненне спалучыць далучанасць да гісторыі з будаўніцтвам уласнага ўнутранага свету, глыбіннае падключэнне да нацыянальнай і сусветнай гісторыі. Ад*нак моўная праблема і гістарычная тэма*тыка робяцца ўжо амаль данінай модзе. Адсюль узнікае аднастайны характар лірычнага героя, раздваенне асобы паэта і яго лірычнага «я», што асабліва небяспечна на пачатку творчага шляху. Гэта загана не толькі маладой паэзіі. У часопісе друкуюцца падборкі і паэтаў старэйшага пакалення. І часам здараецца, што вершы члена СП ніжэй па мастацкаму ўзроўню за творы пачаткоўцаў. Канечне, узрост не заўсёды адпавядае меры таленту. Здараецца, што менавіта на пачатку творчага шляху паэт стварае свае найлепшыя творы. І таму многія лічаць, што дзяліць паэзію на маладую і немаладую—неправамерна. Гэта стварае сітуацыю залішняй паблажлівасці да твораў дэбютантаў. Магчыма, адсюль і ўражанне, што часам на старонках часопіса замнога паэзіі. Як мала каму патрэбны тавар *«у нагрузку»* ўспрымаюцца зазвычай так званыя «юбілейныя падборкі». Дзіўнае ўражанне пакідае і рубрыка «У лучнасці братняй», бо ў ёй адсутнічае прынцыповы адбор твораў для перакладу паводле іх мастацкіх вартасцей.

Рэальнай падтрымкай пачынаючым літаратарам стала бібліятэчка часопіса. Тры першыя зборнікі, якія выйшлі ў гэ*тай серыі, былі прыхільна сустрэты чыта*чом. Праўда, і старэйшыя пісьменнікі, і самі прадстаўнікі «Тутэйшых» пагадзіліся з тым, што першы зборнік паэзіі «...І надзея, і лёс, і ўспамін» атрымаўся не надта якасным і значна прайграе ў параўнанні са зборнікам прозы «Жнівеньскі праспект» і кніжкай А. Сыса—«Агмень». Чацвёртая ж кніжка бібліятэкі знаёміць нас... з прозай сталага ўжо пісьменніка У. Саламахі. Рэдкалегія часопіса сцвярджае, што так сталася з-за адсутнасці твораў маладых. Парадаксальная сітуацыя, ці не праўда? З аднаго боку — маса дэбютантаў, новых яркіх імёнаў, а з другога — аказваецца, у бібліятэчцы няма чаго друкаваць. Думаецца, што наўрад ці паверыць чытач, пазнаёміўшыся з запамінальнымі падборкамі В. Куртаніч, А. Дэбіша, Л. Рублеўскай, што з твораў гэтых паэтаў нельга скласці аднаго цікавага зборніка, калі ўжо ў іх не хапае вершаў на асобную кніжку. Ды, акрамя паэтаў, ёсць яшчэ маладыя празаікі, драматургі, перакладчыкі, урэшце крытыкі і даследчыкі літаратуры. Да таго ж нават у 20—30-ыя гады, калі ў краіне адчуваўся недахоп паперы, творы маладых паэтаў не друкаваліся ў падбор. Боязна, каб не стала гэтая доўгачаканая бібліятэчка, заснаваная для публікацыі твораў маладых літаратараў, звычайным *сродкам для разгрузкі перапоўненых* «заляжалым таварам» рэдакцыйных партфеляў. І тады зноў усё вернецца на кругі свае. Рэдакцыя будзе сцвярджаць, што ў маладых няма чаго друкаваць, маладыя ж будуць скардзіцца, як і раней, што ў бібліятэчку не прабіцца — чарга на два-тры гады наперад...

А тым часам у серыі «Бібліятэчка часопіса «Маладосць» на падыходзе чарговая кніга. Цікава, чые ж творы ў ёй будуць надрукаваны?

**Г. КАЗІМІРЧЫК,**
**наш кар.**

каноміць грошы на адзенні. Сорам, што спраку-веку быў меркай чалавека, прапаў. Як папрападалі, павыміраўшы, маманты і іншая безабаронная жыўнасць.

Дык што гэта? Адкуль? Хіба такое можна без узрыву нейкай страшнай бомбы? Толькі людзі прывыклі ведаць, што за ўзрывам абавязкова ідзе выбух. І чым мацнейшы выбух, тым страшнейшая бомба. А тут — ціха. Людзі проста забыліся, што самае страшнае робіцца ў цішыні. У ціхім балоце чэрці водзяцца. І чым больш мы крычым пра любоў, любоў усіх да ўсіх, тым меней яе застаецца. Можа, засталося ўжо столькі, як той жа чырвонай рыбы ці чорнай ікры. Дзялі, як хочаш, а на ўсіх не хопіць...»

Наш час дазволіў гаварыць пра многае, што з намі было раней, на многае адкрыў вочы. Пісьменнікі з вартай ухвалы актыўнасцю ўключыліся ў барацьбу за перабудову, у спрэчкі па пытаннях сацыяльна-эканамічных, экалагічных. Але ёсць яшчэ і экалогія душы чалавечай, за здароўе якой найперш вечны крыж адказнасці нясе, як і несла, літаратура. Урэшце, будучыня чалавека і чалавецтва, як і поспех перабудовы, магчымы толькі пры актыўнасці людзей духоўна здаровых, якія ўмеюць не толькі спасцігаць здабыткі чалавечай культуры, але і памнажаць іх. Шкода, што далей канстатацыі ісціны мы не ідзём, у нас не хапае часу і энергіі дзейнічаць.

Якая гэта вялікая навука, як гэта быццам нямнога і вельмі многа — проста паважаць чалавека, проста любіць яго, проста клапаціцца пра яго, цёплага і жывога, з яго радасцямі і бедамі. І па-сапраўднаму бачыць у чалавеку не інструмент для ажыццяўлення няхай і вельмі добрых задум, а іх мэту. Няпроста, цяжка навучыць людзей жыць у суладдзі з прыгажосцю і адзін з адным, чалавецтва і да сённяшняга дня не спасцігла гэтай высокай навукі. Адна з найважнейшых умоў дасягнення гэтага — неабходнасць добразычлівага грамадскага асяроддзя, якое зберагаецца і забяспечваецца на дзяржаўным узроўні.

Перабудова дае нам сёння магчымасць гаварыць пра тую мяжу бездухоўнасці, да якой мы дайшлі. На сённяшні дзень для беларускага народа страта грамадзянскіх ідэалаў, дэгуманізацыя асобы, абмяшчаньванне і спажывецтва абярнуліся стратай пачуцця нацыянальнай годнасці і гонару, што асуджае яго на самазнішчэнне як нацыю, і спыніць гэты распад, які непазбежна прыводзіць і да распаду чалавечай асобы, нельга датуль, пакуль нацыянальны нігілізм, гэтая чума душы чалавечай, не перастане лічыцца ў нас адзнакай благанадзейнасці і не будзе пазбаўлены афіцыйнай падтрымкі і заахвочвання.

Народ — ён з канкрэтных людзей, якія побач з намі і якіх нам, пісьменнікам, трэба заўсёды бачыць і памятаць за малымі і вялікімі справамі. Гэтаксама як і тое, што за маральнае здароўе народа інтэлігенцыя не менш адказная, чым урад. І літаратура, як і доктар, павінна ставіць дыягназ, які б горкі ён ні быў, каб ўратаваць хворага, пакуль працэс не набыў незваротную форму.

А мы ў сваёй творчасці, на маю думку, часцей маўчым аб гэтым. Мне бачыцца жаданне Анатоля Кудраўца адчайным рыўком наперад прарваць гэтае маўчанне, данесці да чытача, дакрычаць боль і трывогу: людзі, азірніцеся, задумайцеся! Гэтаму падпарадкавана ўсё ў апавяданні — і нязвыклая для пісьменніка неразгорнутасць некаторых характараў і сітуацый, і дакладная бытавая атрыбутыка, і сімволіка, і дасціпныя, па-народнаму мудрыя афарызмы. Майстэрства пісьменніка ў апавяданні набывае новыя якасці, у тым ліку і адкрытую публіцыстычнасць.

«Надзею страцілі, а чакаць — чакалі.

Так надакучыла бачыць паўсюль грызню — дома, у магазінах, у тралейбусах. Быццам іншага чаго ўжо і быць не магло, быццам кругом адна пустка і адчуванне тупіка, у які людзі самі сябе загналі. Глядзіш на сварку ля прылаўка, на тое, як людзі гатовы перагрызці глоткі адзін аднаму, і робіцца страшна, да чаго ўсе дайшлі.

Высока ў небе з лагодным вуркатаннем плаваў самалёцік, выпускаў на волю парашуцікі. І Рыгор радаваўся, быццам сам быў там разам з імі, як роўны з роўнымі. Быццам сам усімі сваімі жыламі, адчуваў каменную сілу цяжару, што несла парашуцікі ўніз, супраціўляўся гэтай сіле, адцягваючы, як надалей, сустрэчу з зямлёй.

Верылася, што гэтыя парашуцікі маюць дачыненне да нечага вялікага, свабоднага, да чаго ён некалі меў дачыненне. Можа, тады, як пасвіў коней над рэчкай. Ці як з Раісай выкідвалі снапы з гумна. Ці ў партызанах. Можа, нават у той вечар, калі ляжаў паранены на калёсах пад елкай з ТТ і дзвюма гранатамі пад галавой. Яму хацелася быць разам з гэтымі вольнымі парашутыстамі. Часам яму здавалася, што ён папраўдзе там, з імі, у вольным небе».

У жыцці ўсё суровей і нават бязлітасней. У адной газеце будзе змешчана і Рыгорава аб'ява пра размен кватэры, ягонае апошняе спадзяванне на нешта лепшае, і паведамленне пра смерць парашутыста, павязанага з Рыгорам нябачнай, але неразрыўнай повяззю, і запэўніванне, што прычыны трагедыі высвятляюцца.

Высвятляюцца яны і пісьменнікам Анатолем Кудраўцом. Высвятляюцца ў імя таго, пра што гаварыў з высокай трыбуны вялікі доктар нашага часу, дзякуючы якому тысячы людзей сталі відушчымі, С. М. Фёдараў: «Я лічу, што мы павінны арыентавацца на чалавека... Мяне цікавіць—колькі чалавек пачало лепш жыць, колькі стала шчаслівейшымі. Галоўная ацэнка нашай сістэмы кіравання — узровень людскога шчасця».

Пагодзімся, што крытэрый гэты непасрэдна датычыць і літаратуры таксама.

---

поўная роздуму, філасафічнасці, яна без гучных слоў. І гэта нам блізка. Вы, як і мы: пачынаем усведамляць праблему адчужэння людзей, многія іншыя праблемы. І калі мне Валерый Няфёдаў, які працаваў у Рускім цэнтры, падаў ідэю перакласці кнігу беларускай паэзіі (а да гэтага я слухаў яго даклады пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа, азнаёміўся з публікацыямі па-англійску твораў беларускіх пісьменнікаў у часопісе «Савецкая літаратура»), то я тут жа згадзіўся. Цяпер нашы паэты мне гавораць: чаму раней мы не ўведалі пра беларускую паэзію. А выдатны крытык Намвар Сінгх сказаў мне: «Ты, малады чалавек, яшчэ не ўяўляеш сам, што ты зрабіў».

— Які тыраж зборніка?

— Каля дзесяці тысяч.

— Гавораць, што паэзія не перакладаецца.

— Чалавек адзіны і ў Еўропе, і ў Афрыцы, і ў Амерыцы, і ў Азіі. Перажыванні яго аднолькавыя. Любоў, адчуванне сям'і — пачуцці універсальныя. Ёсць агульначалавечыя каштоўнасці, якія не залежаць ад геаграфіі. Так што чалавек можа зразумець адзін аднаго, іх пачуцці могуць быць зразумелымі, іх можна перадаць на другой мове. У вас мова сінтаксічная, у нас — аналітычная, таму шмат прыназоўнікаў, асабліва пасля слова. І ў маіх перакладах актаваў Гілевіча атрымалася не па восем, а па шаснаццаць радкоў, але мне здаецца, што пачуцці паэта я перадаў.

У вас моцная таксама проза. У праграмы ўсіх рускіх цэнтраў Індыі ўключаны творы Васіля Быкава, а па яго аповесці «Сотнікаў» у Дэлі пастаўлены рэжысёрам Сітарамам Прасадам спектакль — на прэм'еры прысутнічалі вядомыя тэатральныя крытыкі. Я чытаў аповесць. Мне здаецца, што спектакль па ёй атрымаўся выдатны. Кніга Адамовіча, Брыля, Калесніка «Я з вогненнай вёскі...» зрабіла на мяне вялікае ўражанне. Сваім трагізмам, новым падыходам да адлюстравання — праз вусны простых людзей. Цяпер зразумела, чаму менавіта на Беларусі з'явілася Святлана Алексіевіч.

**Развітваючыся на вакзале, Вар'ям Сінгх сказаў:**

**— Мая мара — выпускаць перыядычныя зборнікі, у якіх бы публікаваліся творы беларускай літаратуры, матэрыялы аб вашай рэспубліцы, літаратуры.**

**За гады працы з гасцямі я многа чуў абяцанняў, пажаданняў. Не заўсёды яны збываліся, хоць трэба сказаць, што працэс усё больш развіваецца ў бок праяўлення дружбы праз канкрэтныя справы. Але тут гаворка ідзе пра цэлыя зборнікі, прысвечаныя нашай рэспубліцы, беларускай літаратуры! Мы паабяцалі, што за матэрыяламі для публікацыі з нашага боку затрымкі не будзе.**

**І вось сёлета, зусім нядаўна, званок: сустракайце госця з Індыі — выдаўца Субхаша Чаудхары. Дарэчы, у яго выдавецтве выйшла кніга беларускай паэзіі. Госць прывёз цэлы стосік экземпляраў новага індыйскага часопіса «Сучасная сусветная літаратура». Першы нумар. Пад назвай часопіса пазначана: прысвечаны беларускай літаратуры.**

**Змест часопіса: рэдакцыйны артыкул, артыкул Уладзіміра Караткевіча пра Янку Купалу і вершы народнага паэта, артыкул да 75-годдзя Максіма Танка і вершы народнага паэта, вершы Ніла Гілевіча, Алеся Разанава, Любові Турбіной, апавяданні Генрыха Далідовіча і Васіля Ткачова, артыкулы Сяргея Чубанова «Індыйская і беларуская літаратуры: некаторае падабенства», Аляксея Гардзіцкага «Беларуская літаратура за мяжой», рэцэнзія «Другая сусветная вайна і жанчыны» — на кнігу Святланы Алексіевіч, агляд Сурэша Дхінгры «Сучасная беларуская паэзія». Які тыраж часопіса?**

— Першы нумар мы выпусцілі ў тысячу экземпляраў. Бясплатна. Разаслалі ў бібліятэкі школ і універсітэтаў. Гэта першы вопыт выдання часопіса замежнай літаратуры ў Індыі. Цяпер мы маем заказы на пяць тысяч. Другі нумар прысвячаем рускай і іспанскай літаратуры, а трэці — зноў беларускай.

— Ці дае даход такі часопіс?

— Пры тыражы пяць тысяч затраты і даход, як кажуць, адзін к аднаму. Але гэта мяне не бянтэжыць. Я маю турысцкую фірму, агенцтва па продажы авіябілетаў «Аэрафлоту» — цяпер ствараем сумесную кампанію, маю фірму, якая гандлюе камп'ютэрамі і індыйскімі дыскамі для камп'ютэраў. Выдавецтва маё «Гарымашы Пракашан» маладое, створана ў 1983 годзе, і я магу пакрыць страты за кошт іншых даходаў.

**Субхаш прывёз мне пісьмо ад літаратуразнаўцы Сяргея Чубакова, які цяпер працуе ў названым ужо вышэй Цэнтры рускіх даследаванняў у Дэлі. У пісьме, у прыватнасці, выказваецца падзяка за прысланыя матэрыялы па беларускай літаратуры, гаворыцца далей, што Вар'ям Сінгх «многа і сур'ёзна працуе над папулярызацыяй беларускай літаратуры ў Індыі, што жонка яго пачала вывучаць беларускую мову (просьба, пры выпадку, пераслаць падручнікі па беларускай мове і слоўнікі). 12 верасня, — піша далей С. Чубакоў, — адбыўся ў Савецкім Цэнтры навукі і культуры вечар беларускай паэзіі (экземпляр запрашальнага білета дадаю). Людзей было багата, пытанняў — таксама. Гавораць, гэта быў самы цікавы літаратурны вечар за апошнія гады. Вар'ям Сінгх чытаў беларускія вершы на хіндзі. Аўдыторыя — індыйскія літаратары і выдаўцы, універсітэцкія выкладчыкі і студэнты. На вечары распаўсюджваўся альманах па беларускай літаратуры».**

**— На гэтым вечары, — каменціруе пісьмо Субхаш Чаудары, — створана інда-беларуская літаратурная Асацыяцыя, яе прэзідэнтам абраны прафесар, паэт Ганга Прасад Вімал, віцэ-прэзідэнтам — Вар'ям Сінгх.**

**Сваю публікацыю я назваў «Чатыры інда-беларускія старонкі», маючы на ўвазе чатыры публікацыі нашай літаратуры ў Індыі. Стварэнне Асацыяцыі — гэта, мусіць, пятая ўжо старонка. Трэба спадзявацца, не апошняя. Бо калі мы спыталіся ў госця, якія будуць просьбы да нас, то пачулі ў адказ:**

**— Просьба адна: шліце часопісы, кнігі, каб было што перакладаць.**

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

---

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР



**ДУБІНКА Вячаслаў Андрэевіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў горадзе Слуцку. Скончыў Чарнавіцкі тэхнікум чыгуначнага транспарту (1958). Працуе па працоўнаму пагадненню ў часопісе «Беларусь» рэдактарам аддзела.

Літаратурную працу пачаў у 1979 годзе.

Аўтар кніг «Не плач, душа мая» (1983), «Ой, зялёны дубочак» (1983), «Браты святой ночы» (1986).

**ЖУК Кастусь Якаўлевіч.** Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Затур'е Нясвіжскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1981) і Мінскую вышэйшую партыйную школу (1988). Старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Член КПСС.

Літаратурную працу пачаў у 1968 годзе.

Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Нашчадкі» (1979), выдаў кнігі «Планета маёй душы» (1982), «Зямная ноша» (1988).

**КАМАРОЎСКІ Алесь Адамавіч.** Паэт, празаік. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1970). Загадчык аддзела па выданню праграм, рэкламы і інфармацыі Рэспубліканскага радыётэлецэнтра.

Член КПСС.

Літаратурную працу пачаў у 1961 годзе.

Аўтар кніг «Пачатак» (1975), «Адкрытая тайна» (1979), «Зямля маіх надзей» (1988).



**КЛІМЯНКОЎ Іван Пракопавіч.** Празаік, крытык. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Хляўно Кармянскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1970). Працуе будаўніком.

Літаратурную працу пачаў у 1976 годзе.

Аўтар кнігі «Сеанс гіпнозу» (1987).

**МАРХЕЛЬ Уладзімір Іосіфавіч.** Перакладчык, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Жыгалкі Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1964). Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.

Кандыдат філалагічных навук.

Літаратурную працу пачаў у 1957 годзе.

Падрыхтаваў зборнік «Лірнік вясковы» (1983), а таксама кнігі «Вінцэсь Каратынскі» (1981), «Янка Лучына» — укладанне, прадмова, пераклады, каментарыі.

**НАВАРЫЧ (Трушко) Алесь Іванавіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Відзібор Столінскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1980). Працуе ў рэдакцыі часопіса «Вожык».

Літаратурную працу пачаў у 1980 годзе.

Аўтар кнігі «Рабкова ноч» (1988).



**САХАРЧУК Васіль Якаўлевіч.** Паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Свадзьбічы Бярозаўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1975). Загадчык аддзела сельскай гаспадаркі раённай газеты «Сельская праўда» (Жабінка).

Член КПСС.

Літаратурную працу пачаў у 1970 годзе.

Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Крыло» (1984), выдаў кнігу «Даніна» (1988). У перакладзе В. Сахарчука і Н. Гілевіча выйшаў зборнік П. Явара «Апалены пярсцёнак» (1988).

**СЫС Анатоль Ціханавіч.** Паэт. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1982). Працуе старшым тэхнікам Рэспубліканскага радыётэлецэнтра.

Літаратурную працу пачаў у 1975 годзе.

Аўтар кнігі «Агмень» (1988).

**ШЭЛЕХАЎ Міхаіл Міхайлавіч.** Паэт. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Плотніца Столінскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1976), Вышэйшыя двухгадовыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў Дзяржкіно СССР (1984). Галоўны рэдактар студыі мастацкіх фільмаў «Кадр» кінастудыі «Беларусьфільм».

Літаратурную працу пачаў у 1968 годзе.

Аўтар кнігі «Слово ненастное, слово лазурное» («Современник», 1987) і адзін з аўтараў зборніка «Лагодны прамень раніцы» (1988).

# Дзядзька Гурык

Галіна ГАРЭЦКАЯ

**У дні жалобнага развітання з выдатным сынам зямлі беларускай акадэмікам АН БССР Гаўрылам Іванавічам Гарэцкім у рэдакцыю прыйшоў Янка Брыль. Ён прынёс падараваныя яму на пачатку 80-х гадоў успаміны Галіны Максімаўны Гарэцкай, дачкі класіка нашай літаратуры Максіма Гарэцкага, у якіх яна расказвае пра Гаўрылу Іванавіча — любага дзядзьку Гурыка, як называла яго з дзіцячых год. З гэтых светлых, напісаных удзячным сэрцам старонак паўстае вельмі цэльны і запамінальны вобраз Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага — сусветна вядомага вучонага, сапраўднага патрыёта роднай зямлі, цудоўнага Чалавека, памяць пра якога будзе жыць заўсёды ў людскіх сэрцах.**

**Па нашай просьбе Галіна Максімаўна наведала рэдакцыю штотыднёвіка. Яна дала згоду на публікацыю ўспамінаў і прыняла ўдзел у падрыхтоўцы іх да друку.**

ДЗЯДЗЬКА Гурык, калі працаваў на Волга-Доне, усё зваў мяне і маму маю ў станіцу Раманаўскую пагасцяваць у яго сям'і. У 1951 годзе мы і выправіліся з Ленінграда ў Растоў-на-Доне, а далей плылі яшчэ двое сутак на параходзе.

Хмурным днём выйшлі ўпершыню ў данскі стэп, і раптам я пабегла. Расхінала пахучае травамі паветра, пакуль не здаволілася. Адчула стэпавы прастор... Цудоўнае было паветра, гаючае. Можа, і яно прыдавала дзядзьку Гурыку нястомныя сілы. Кіраваў ён тут інжынерна-геалагічнымі вышукваннямі, што папярэднічалі будаўніцтву Цымлянскага гідравузла, а таксама стварэнню Цымлянскага вадасховішча, Волга-Данскога, Сальскага, Пралетарскага каналаў, Сарпінскай абвадняльнай і арашальнай сістэмы, Дона-Сальскага (Мартынаўскага) тунеля і г. д.

28 студзеня 1951 г. дзядзька Гурык пісаў нам: «Сёлетні год для мяне з'явіцца выключна выдатным: трэба будзе шмат-шмат працаваць, ездзіць, наглядаць, вывучаць, каб зразумець больш глыбока тутэйшую чацвярцёвую геалогію». А крыху пазней, у лісце ад 29.3.51 г: «Працы шмат, адлегласці вялікія, і для эканоміі часу я часта лётаю на самалёце».

І лятаў, і ў «газіках» паездзіў, нямала і пешкі павандраваў. Шафёры ў «газіках» доўга з ім не трымаліся, хоць і любілі яго: не кожны выцерпіць бясконцыя паездкі па стэпе, у любое надвор'е. Усе дзівіліся проста-такі фенаменальнай працаздольнасці дзядзькі Гурыка, рэдкай вынослівасці. Любіў работу сваю, ганарыўся ёю: «... прыемна ж бачыць, як праца твая робіцца патрэбнай, ажыццяўляюцца меркаванні, веданне зямлі» — (ліст ад 10. IV. 1948 г.).

Хутка па прыездзе давялося мне пабыць на будаўніцтве Цымлянскай гідрастанцыі. Бачыла нялёгкую, самаадданую работу. Быў момант, калі я адступіла ўсяго на некалькі крокаў ад праважатага і трох спадарожнікаў сваіх, і адразу ж здалося, што стаю адна ў гарачым пекле, а з усіх бакоў, з душнага пылу сунуцца на мяне вялізныя грузавікі і яшчэ немаведама што... Потым, пад канец экскурсіі, пацішэла: прывезлі абед. Бачыла, як у катлаване ніжняга б'ефа елі, адпачывалі загарэлыя да чарнаты будаўнікі.

У другі раз паказаў мне дзядзька Гурык, як намываецца з магутнай помпы, пад вельмі вялікім ціскам, пясок — і расце плаціна.

Аднойчы трэба было дзядзьку Гурыку ляцець пад Аксай (паблізу Растова-на-Доне). Згадзіўся ўзяць мяне.

**У стэпе трымцела марыва, дзівіў міраж — нібы караблі нейкія плывуць на даляглядзе. Разагнаўся «Як-12» па траўцы, і перад узлётам чуткі слых вопытнага лётчыка здолеў улавіць небяспеку. Бортмеханік забыўся прыкруціць вечка на бензабаку, і яно апынулася ў траве. Знайшлі вечка, прышрубавалі, паляцелі. Ні Гаўрыла Іванавіч, ні геолаг Пракаповіч, што ляцеў з намі, ні лётчык Аляксандр Міхайлавіч (лятаў ужо 17 гадоў, на фронце быў) — ніхто не сказаў вінаватаму благога слова. Так і бацька мой, бывала, не ўшчуваў, калі бачыў, што чалавек сам адчувае віну сваю.**

**Плылі ўнізе данскі, сальскі стэпы, не пакідаў нас цень ад самалёта. Запомнілася пакручастая рэчка Сал. Гойдаліся мы ў паветраных ямах, гудзеў матор. Дзядзька Гурык усё стараўся паказаць мне самае цікавае ўнізе, на зямлі, ды пільнаваў, каб занадта не высоўвала локаць у ваконную шчыліну. Злёгку можна было высунуць (тады трохі абвее ветрам, лягчэй зробіцца), а ўсю руку — ніякім чынам.**

**Не падлічана, колькі налятаў мой дзядзька кіламетраў на такіх вось невялікіх самалётах. Вялікая лічба атрымалася б. Ён і месца для пасадак дапамагаў выбіраць, раіліся з ім лётчыкі. Па справах геалагічных нямала і ў пасажырскіх лайнерах палятаў. У станіцы Раманаўскай, помню, зайшоў нарачны з геалагічнай экспедыцыі: «Гавриила Ивановича к обеду не ждите. Он уже в Москве!»**

**У той дзень пад Аксаем я не адважылася ў стэп паехаць: дужа пякло сонца. Злятала з лётчыкам у Растоў-на-Доне, і ў моцную яшчэ спякоту, забраўшы ў Аксаі дзядзьку Гурыка і Пракаповіча, вярталіся дамоў. Кожны натаміўся за дзень. Маўчалі, слухалі па радыёпеленгатару то нейкае невыразнае джазавае бразгатанне, то пявучы голас Вольгі Кавалёвай, яе «Волжские страдания»... І раптам запахла паленым: матор занадта перакаліўся. Як сказаў потым дзядзька Гурык: «Мог быць невялікі выбух». З якой зайздроснай вытрымкаю, знешне спакойны, раіўся ён з лётчыкам і нават жартаваў (дзеля мяне, вядома), пакуль не селі паспешліва бліз вузкай звілістай рэчачкі. Мы ў ваду, купацца, адкрыты матор сам астываў, а з-за рэчкі беглі да нас па стэпе людзі з бліжняй станіцы.**

Ці мала было ў дзядзькі Гурыка, геолага-вандроўніка, розных небяспечных выпадкаў? І раней, калі ў 1948 годзе ледзь не згарэў у «Дугласе», і пазней... Неяк спыталася, якая ж была ў яго апошняя думка, калі трапіў у аўтамабільную аварыю пад Чугуевам у 1958 годзе. Успомніў, што падумаў толькі: «Як мала зрабіў я для навукі!» Так адчуваў у той цяжкі міг сваю здольнасць яшчэ многае даць навуцы. А заслужаны ўрач УССР Бурцаў потым сціпла напіша на падараванай дзядзьку Гурыку сваёй фотакартцы, што не ён, хірург, выратаваў дзядзьку, а дзядзькаў «могучий дух».

Сумна ўспомніць, што хутка пасля той вымушанай пасадкі за Аксаем (і года не прайшло) загінулі Аляксандр Міхайлавіч і бортмеханік. Самалёт разбіўся пры пасадцы ў стэпе... І геолаг Пракаповіч, харошы чалавек, утапіўся ў веснавое бездарожжа 1952 года. Конь яго выплыў, а ён не змог...

Ахапіць усю працу Гаўрылы Іванавіча, навуковыя пошукі, знаходкі, усе «церні і ружы» на яго жыццёвай дарозе, мне не пад сілу. Таму проста паўспамінаю яшчэ што-небудзь пра любага дзядзьку майго. А на даўнюю мерку, то яшчэ і хросніка, бо завочна запісалі яго маім хросным, калі спатрэбілася дзеля метрыкі ахрысціць мяне ў Вільні ў 1921 годзе.

Вось перад вачыма велізарны артэзіянскі калодзеж у выгаралым ад сонца стэпе. Здабылі пітную ваду геолагі — і быў шчаслівы бліжні будаўнічы гарадок, бо раней дужа здалёк прывозілі яе сюды ўлетку, сцёпленую ў бочках. Помню: сядзіць дзядзька Гурык у цянёчку каля гэтага артэзіянскага помніка геолагам, адпачывае. Шапку белую зняў. Светлая кашуля на ім, цёмныя штаны ў крэпкія боты запраўлены. На каленях планшэт нязменны. На рабоце заўсёды ў руках трымаў або цераз плячо насіў. Сядзіць спакойны, задумаўся крыху...

Планшэт гэты яшчэ ўспамін выклікаў.

Загудзеў пад канец дня самалёт над станіцай, пачаў заходзіць на пасадку, а мы з Лідай (жонкай старэйшага сына Гаўрылы Іванавіча) за ваколіцу — сустракаць. Дабеглі. Я заўважала: прыемна дзядзьку Гурыку і самому і перад людзьмі, што так радасна імчалі яму насустрач пляменніца і нявестка. Спакваля ішлі дамоў, і ён, у знак даверу і ўдзячнасці, даў мне, быццам падлетку якому, несці яго планшэт.

Любілі дзядзьку Гурыка з яго малых гадоў. У найбольш аўтабіяграфічным творы (урывак з «Меланхоліі», «Узвышша» № 3, 1928 г.) бацька мой вуснамі галоўнага героя скажа пра Лаўрыньку (Гурыка): «Сярод агульнага старога ўбоства дарагі браток здаўся большым, як раней, і святлейшым за ўсё».

Які слаўны быў падлетак Лаўрынька! Ніякай працы не цураўся. Ужо малаціў нароўні з дарослымі, умеў «і ў чатыры», «і ў пяць» цапоў. Вабілі ў ім прыроджаная далікатнасць і непрыманне, хоць і прыхаванае, усяго дрэннага, агіднага (п'янства бацькі, напрыклад), і такое светлае, моцнае імкненне да кніг, ведаў.

«...спытаўся ў Лявона, ці можна ўзяць з сабою ў поле «Нашу Ніву», што ён прывёз.

— Якія табе там «Нашыя Нівы» цяпер: трэба ж ехаць жыта завалачыць на ўзмошчы, — сказаў бацька паважна, але без злосці.

— Пакуль звязеце кучу, я паспею газету прачытаць і каня прывязу, — не згаджаўся Лаўрынька.

— Чытаку ты ўжо ў нас! — пасмялася маці, а бацька маўчаў».

Не перакажаш усяго пра Лаўрыньку (асабліва хвалюе сцэна ў садзе), а так праглядаюць у белавалосым, радасным і «быццам трошку нясмелым» Лаўрыньку рысы, што набудуць потым у прататыпа яго — Гаўрылы Гарэцкага — вялікую моц: пашана да працы, моцная воля, духоўная вытрымка і дабрыня.

«Чытаку» — таму не споўнілася і чатырнаццаці гадоў, калі ў «Нашай Ніве» № 5 ад 31 студзеня 1914 года з'явіліся яго нататкі-паведамленні за подпісам Гурык Г. Проста і шчыра было расказана, што ў Цёмным Лесе дрэва забіла Мікалая Ханеўскага, а ў Чортаўшчыне, на вачах пані Іванскай, дрэвам каня забіла ў беднага чалавека. Пані, уражаная яго горам, дала яму 5 рублёў («Дала б і болі, скажуць, але ён, хаця, праўда, і доўга без шапкі стаяў, ды ў руку не пацалаваў. У нас паном у рукі яшчэ цалуюць, і старыя пані пільнуюць гэтага: хто не пацалуе у руку, той ужо «дэмакрат і неблаганадзёжны», і паны такога чалавека не любяць»).

Да пачатку 1914 г. юны аўтар гэтых нататак сапраўды нямала ўжо начытаўся, знаў і апавяданні старэйшага брата Максіма, змешчаныя ў 1913 г. у «Нашай Ніве», і быў пад уплывам іх, ведаў допісы брата ў газету, нататкі яго. Вось і сам расказаў, як мог, пра вясковыя здарэнні, бо, услед за братам, не заставаўся абыякавым да ўсяго, што бачыў, чуў.

Імя Гурык так і засталося за ім для блізкіх яго на ўсё жыццё. Каму — дзядзька Гурык, каму быў проста Гурык, а найбліжэйшыя і цяпер скажуць: Гурэечка.

Чуллівы дзядзька чалавек, уражлівы. З дзяцінства помніцца мне надта смачнае смажанае мяса дзікай птушкі, застрэленай дзядзькам Гурыкам на паляванні каля Малой Багацькаўкі. Казала мне маці, што дужа перажываў ён гібель вольнага птаха. Душэўныя яго пакуты ляглі ў аснову мамінага апавядання «Чапля». Не выйшаў з дзядзькі Гурыка паляўнічы, а «Чапля» прапала ў мінскім выдавецтве 30-х гадоў...

У станіцы Раманаўскай не змог дзядзька Гурык есці пеўня, які перад канцом сваім пяяў і красаваўся ў яго пад вокнамі. Не змог, хоць і быў прывычны да ўсіх абставін вясковага жыцця, знаў яго да самай макулінкі.

Або такі выпадак.

**Вяртаўся дзядзька Гурык цягніком у станіцу Раманаўскую. На перасадцы разгаварыўся з адной вялікай сям'ёю, што перасялялася ў новыя мясціны, на будаўніцтва. Абакралі тых людзей у дарозе, засталіся без капейкі. І аддаў ён ім усё, што меў пры сабе, — 400 рублёў, па тым часе, сказаў толькі прозвішча сваё і пасаду, бо не бралі беззваротна. Праз два гады, шчасліва абсталяваўшыся, вярнулі яму той доўг.**

**Адзін з шафёраў збег разам з гадзіннікам Гаўрылы Іванавіча. Прыкра было. Але дзядзька суцешыў сябе: «Ці не ўсё роўна, у чыёй кішэні гадзіннік будзе, галоўнае, каб цікаў!»**

Пад хвалямі будучага Цымлянскага мора збіраліся навечна схаваць мясціны, дзе калісьці знаходзілася хазарская крэпасць Саркел, што азначае ў перакладзе — Белая Вежа. Пабудавалі яе, з інжынернай дапамогай Візантыі, каля 834 года. У 965 годзе крэпасць узяў кіеўскі князь Святаслаў. Прыблізна ў 1117 г., ратуючыся ад палавецкіх набегаў, белавежцы перасяліліся на Русь, а тут засталося нязначнае руска-палавецкае насяленне да вялікія могільнікі (сотні захаванняў: хазары, славяне, полаўцы, наёмныя гузы-торкі і печанегі, што складалі ў Саркеле гарнізон у 300 чалавек, які штогод мяняўся, і інш.).

Гаўрыла Іванавіч усё, што лічыў вартым увагі, што падмячала яго вострае вока геолага і мастака ў душы — усё імкнуўся паказаць, перадаць другім. Ён і прывёз маладых гасцей сваіх да хутара Папова на левым беразе Дона, недалёка ад станіцы Цымлянскай, дзе паспешліва, яшчэ ў 1949 годзе, зноў пачаліся раскопкі Саркела — Белай Вежы. Раскопкамі кіраваў прафесар Ленінградскага універсітэта Міхаіл Іларыёнавіч Артамонаў, выдатны археолаг.

Перад галоўнымі варотамі Саркела, знутры крэпасці, быў знойдзены калодзеж з абліцаванымі часаным каменем сценамі, глыбінёю у 6,5 метра*. Адкапалі — і зноў напоўніўся ён крынічнаю вадою. Уцалела вядро, выдаўбленае з вербнага камля. Пачаставалі нас гэтаю вадою. Пілі яе, смакавалі... Вясёлым быў дзядзька Гурык. Пэўна, радаваўся, што столькі цікавага паспелі здабыць прапечаныя сонцам і абвеяныя ветрам археолагі (частку знойдзеных рэчаў і цяпер можна ўбачыць у калекцыях Эрмітажа ў Ленінградзе). Многа чаго знайшлі. Адзін жаночы бранзалет здзівіў. Варажылі: на чыёй жа такой тонкай руцэ быў ён? З найцікавейшых знаходак, як удакладніла потым, — багатая, з унікальнымі каштоўнасцямі, магіла качэўнай жанчыны-воіна, пахаванай разам з канём; дарагі скарб, што быў захаваны ў вялікім гаршку з просам; наканечнікі коп'яў і стрэлаў у касцях людскіх, што так і засталіся ляжаць у сутарэннях крэпасці... Цікавілі археолагаў і незразумелыя літары на крапасных, з мясцовага сырца, цаглінах, на сасудах, і некалькі візантыйскіх мармуровых калон і капітэляў, і знойдзенае ў гарадзішчы радзіміцкае сямілучовае скроневае кольца...

Мала з чым параўнаеш радасць вучонага.

**Быў кліч: несці на кватэру Гарэцкага знойдзеныя ў стэпе даўнія косці жывёлін. Гаўрылу Іванавіча ведалі ў станіцах і на пабудовах і з пашаны да яго неслі. Раз увайшла я ў дом, убачыла на падлозе ў кухні шэрую струпехласць на посцілцы і згідзілася: «Ох, якая гадасць!» А ўслед — у дзверы прафесар Артамонаў. Зірнуў і кінуўся да посцілкі: «Ах, какая прелесть!» — кленчыў і замілавана разглядаў шэра-бурыя камякі, тое, што патрэбна навуцы.**

**І дзядзька Гурык не хаваў сваёй радасці, калі меў геалагічны здабытак, прызнаваўся, што нават цалаваў, бывала, асабліва каштоўныя краменьчыкі і іншыя рэлікты, што пакінуў нам першабытны чалавек. Яшчэ ў пачатку сваёй геалагічнай працы знайшоў ён нямала старажытных стаянак. А з іх — дзевяць на Кольскім перашыйку.**

І далёкія ад геалогіі людзі могуць знайсці ў артыкулах Гаўрылы Іванавіча зразумелыя ім і цікавыя звесткі. Будзь то развагі вучонага пра магутны мнагаводны пра-Дон, што ўпадае ў Эўксінскае возера-мора, на 75—80 км вышэй навейшага вусця Дона, альбо клапатлівы роздум у артыкуле «О нерешенных вопросах антропогена» ў міжнародным штогодніку «Будущее науки» (выпуск 10, 1977 г.). Можна ўявіць і такую даўніну, калі Каспійскі і Чарнаморскі басейны былі «в непосредственном соприкосновении». Дарагія воку і знойдзеныя ім у мнагаслойных грунтах на месцы старажытных стаянак рэшткі керамікі, зброі, гаспадарчых прылад, выкапнёвыя ракавіны малюскаў і многае іншае. З цікавасцю чытаюцца апісанні іх. За гады працы на Волга-Доне (1947—1953) надрукаваў ён восем навуковых артыкулаў, з іх такія, як «Новые стоянки конца неолита и эпохи бронзы на террасах Нижнего Дона и Маныча как геологические документы», «Следы палеолита и мезолита в Нижнем Подонье», «О палеогеографии Приазовья и Западного Приманычья в узунларско-гирканский и буртасский века».

Пільны позірк, найвялікшая ўвага да ўсяго, што можа зацікавіць геолага, вельмі адметны ў дзядзькі Гурыка. Неяк стаяла з ім на ленінградскім трамвайным супынку, усё гаварыла-гаварыла яму нешта. Зірк: няма дзядзькі. Як скрозь зямлю праваліўся. Не паспела звусцішыцца — убачыла, што разглядае ён у нейкай будаўнічай яме, каля дарогі земляны зрэз. «Можна, — кажа, — тут высокія дамы будаваць, толькі абавязкова на па́лях».

Блізкіх дзядзькі Гурыка часам палохала яго апантанасць. У адзін выхадны дзень гуляў ён з прыезджым масквічом-геолагам усцяж данскога берага. Вярнуліся няскора, з падранымі на спіне кашулямі. Яны хадзілі

* Адкрываўся толькі ў часы асады, калі не было выхаду к Дону. А так па ім можна было праехаць.

 

*БТ: разам ля экрана*

# «ЛІРА» СУПРАЦЬ БЮРАКРАТЫІ

...Вертыкальная трэшчына, нібы спыненая маланка, цягнецца праз увесь экран, тэлекамера чуйна прасочвае яе гнятліва доўгі шлях, нібыта даючы нам магчымасць адчуць боль і трывогу...

Гэты кадр, мне здалося, стаўся галоўным нервам чарговай тэлепраграмы «Ліра» (БТ, 22 лістапада), перадачы, прысвечанай перш за ўсё праблемам захавання помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Праблемам балючым, якія крывавяць, крычаць аб паратунку. Гэтых праблем можна не ведаць, не чапаць болей — маўляў, абы ціха. Але яны ёсць, як ёсць гэтыя свежыя трэшчыны на помніках у Верхнім горадзе, як ёсць занядбанне нацыянальнай спадчыны, як ёсць бюракратыя, паразітуючая на культуры народа. Менавіта гэтакі пафас перадачы.

Мне больш за ўсё не хацелася б пераказваць яе сюжэт. Больш за ўсё мне хацелася б адзначыць у ёй сучаснасць, вастрыню, адчуванне нерва перабудовы. Прысутнасць у перадачы маладога, смелага духу надае наталяючай свежасці.

Перадача поліфанічная. Тут сутыкненне пакаленняў і інтарэсаў, жывога з аджыўшым, крыку з кабінетным зацішшам. Так пабудавана «Ліра».

Трэба аддаць належнае спрыяльнаму матэрыялу, якім сталіся на гэты раз для «Ліры» фрагменты двух дакументальных фільмаў — «Ёсць у горада душа» і «Гісторыяй пакінутыя вехі». Абодва яшчэ не выйшлі на экраны. У абодвух нялёгкі лёс, за кожным — прывід «антыперабудовачнай стыхіі».

Не-не ды падасца, што ты на спектаклі. Рэплікі вострыя, дальбог, вартыя воплескаў. Услухаемся, пра што гаварылі ўдзельнікі перадачы (прыводжу па памяці):

...Адзін высокапастаўлены чыноўнік пазваніў і загадаў убраць з фільма Зянона Пазняка. Значыць, што? Кожнага з нас можна вось так, па званку ўбраць?..

...Мы здымалі унікальныя ацалелыя фрэскі. А нас прымушалі іх выразаць, казалі: «Навошта стольк ікон?..»

...Калі б гэта было дзесяць гадоў назад, я мог бы зразумець. Сёння гэта не паддаецца ўразуменню, здзіўляе і абражае...

...Нізы перабудову ўспрымаюць хутчэй. Бо тут літаральна захлёбваешся ад праблем...

...Бюракратыі не патрэбна культура...

Гэтымі нататкамі я галасую за такія перадачы. Вострыя, актуальныя, без боязі «іншамыслення». Што датычыць непасрэдна «Ліры», то гэта не першы яе выпуск, дзе чуваць крык аб паратунку. Калі ішла перадача з Мазыра, з экрана мы чулі ціхаваты голас народнага майстра Пушкара. Але яго словы крычалі. Аб здзеку з таленту, аб чыноўнай пагардзе да самабытнай культуры. Была і перадача з Веткаўскага музея, сустрэча са Шкляравым, чалавекам неардынарным, апантаным, незалежным. І тут таксама шмат сведчанняў, якія не могуць не будзіць сумлення, не выклікаць пякучага шкадавання аб страчаных каштоўнасцях. Дзякуй за гэтыя перадачы яе аўтарам.

І на заканчэнне. Калі ёсць крык, то павінен быць і водгук на яго тых афіцыйных органаў, якія адказваюць і за нашы помнікі, і за стан музеяў, і за «рэшткавы прынцып» у падыходзе да культуры. Хацелася б, каб рэдакцыя вярнулася да сваіх перадач, прадаставіла мікрафон для пасляслоўя. Гледачу неабыякава, хто з адказных асоб чуе выпускі «Ліры».

**В. КРЫЛОВІЧ.**

*Тэатр*

# Паважаць свой талент

**З галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага тэатра лялек БССР Аляксеем ЛЯЛЯЎСКІМ мы сустрэліся якраз пад час святкавання юбілею, але гутарка наша не набыла святочнага характару і не звялася да агледзін пяцідзесяцігадовага шляху тэатра. Аддаўшы даніну ветлівасці, я, так бы мовіць, «калупнула» застарэлую больку лялечнікаў — іх нетрывалы эканамічны стан.**

**— Што змяніў у эканамічным становішчы тэатра эксперымент? Як наогул пачуваюцца сёння лялечнікі?**

— Ці не адзіная мы краіна ў свеце, дзе ідэалогія і мастацтва пераведзены ледзь не на гасразлік? У нашай галіне кіруючыя органы дбаюць выключна пра нашы заробкі, а не пра мастацтва, не пра яго эстэтычны і выхаваўчы эфект. Нагадаю словы аднаго з вядучых тэатральных эканамістаў пра тое, што тэатр у СССР існуе неяк ненатуральна: выпускае спектаклі, а прадае білеты. Адзінае, так бы мовіць, прадпрыемства, якое прадае тое, чаго не выrабляе. Вядома, пры любой грамадска-эканамічнай сістэме, у любой дзяржаве мастацтва падтрымліваецца і ўтрымліваецца... «Метрапалітэн-оперу», да прыкладу, утрымлівае за свой кошт Форд; на ўвесь свет вядома дзейнасць Хамэра і ягоныя калекцыі, якія ён не хавае ў сваіх сутарэннях ці скляпеннях, а паказвае ўсяму свету дый яшчэ выдаткуе на дарункі музеям. Ёсць і выключэнні. Знаёмы ўжо амерыканскі лялечны тэатр «Брэнд энд паппет» не атрымлівае дзяржаўных ці мецэнатавых грошай, але ад яго ніхто і не патрабуе ні плана, ні колькасці гледачоў. Мы ж дагэтуль павінны выпрошваць дазвол, скажам, на вулічнае выступленне, на публічнае выяўленне сваіх думак і перакананняў.

**— Але ж ва ўмовах эксперыменту тэатр лялек, урэшце, атрымаў магчымасць самім вырашаць, што ставіць, што паказваць? Сёлета адбыўся і чарговы пленум СТД БССР (які, дарэчы, прыняў рашэнне прапагандаваць беларускую мову і мастацтва сродкамі тэатраў — дзіцячых і лялечных у тым ліку).**

— Мяркуйце самі. Мы даўно хочам узяцца іграць для дзяцей — падкрэсліваю: для невялічкіх аўдыторый! — дадатковыя спектаклі па-беларуску; такія спектаклі ў нас ёсць. Мы хочам дамагчыся непасрэднага кантакту паміж акцёрамі і дзецьмі, каб да апошніх усё даходзіла, каб ніхто нічога не перапытваў з прычыны таго, што недачуў, ці не ўгледзеў. (У нашай, даруйце, тэатральнай адрыне, што будавалася як кіназала, з яе кепскаю акустыкаю, нязручным гарызонтам сцэны і састарэлым абсталюнкам працаваць плённа немагчыма). Наш шлях — куды больш правільны за прасталінейны заклік «вывучаць і шанаваць сваю мову». Але... Гэта — матэрыяльныя сродкі, дадатковыя грошы, пошук памяшканняў, транспарту... Такім чынам, адзін з нашых самых перспектыўных праектаў адрынуты Міністэрствам культуры і СТД. Увогуле, ніякіх мэтавых укладанняў, ніякіх праектаў і да т. п. у нашым тэатры не ажыццяўляецца.

**— Чаму?**

— Таму што наша справаздача цалкам задавальняе ўсе органы ідэалагічнага і мастацкага кіравання: масавасць ёсць. Гледачоў нават і зашмат. Хоць вынік ад падобных «зносін з тэатрам» зведзены на нішто. Мяркую, калі ёсць добрая ідэя, трэба даваць пад яе грошы. Пры гэтым я не вымагаю павелічэння датацыі. Я хачу прадаць ідэю, дзесяць ідэй, чаму ж не скарыстаць іх на патрэбу рэспублікі? А ўзяць наш праект супрацоўніцтва з беларускімі зямляцтвамі за мяжой, на які нам растлумачылі, што лягчэй паслаць туды афіцыйную дэлегацыю і на яе рахунак залічыць пэўнае «дасягненне»: маўляў, сустрэліся-падружылі...

**— Выйсце за мяжу абяцае тэатру валюту?**

— Не заўсёды, хоць і яна з'явіцца: можна будзе змяніць абсталяванне залы, прыдбаць замежную гукавую і светлавую апаратуру, памяшканні сабе адбудаваць прыстойныя. Праўда, калі ў такім разе займацца мастацтвам? Па шчырасці, я не лічу, што тэатр абавязкова мусіць зарабляць грошы. Размяркоўваць свае даходы і ўкладаць іх у праекты мусіць дзяржава. Напрыклад, у Польшчы ўсе ведаюць, што на алкагольныя напоі ёсць налог, і што пяць працэнтаў ад кожнай пляшкі гарэлкі ідзе на культуру. Такім вось пакручастым шляхам хоць частка таго, што апівоха знясе з хаты, ад сям'і, у сям'ю і вернецца: таннымі білетамі на дзіцячы спектакль, бясплатным выступленнем тэатра ў школе, на вуліцы... Падобна ж да таго, што прынцып «рэшткавага» фінансіравання культуры ацалеў і ўкараніўся ў нашай краіне.

**— А як ажыццяўляецца дапамога тэатрам лялек, якую дакляраваў пленум СТД?**

— Хіба ж незразумела, што гэтыя добрыя намеры не падмацаваны дзейснымі эканамічнымі мерамі.

**— А як працягваецца супрацоўніцтва з беларускімі пісьменнікамі і драматургамі?**

— Не буду зараз спасылацца на А. Вольскага ці А. Вярцінскага (які, дарэчы, недаравальна мала піша для тэатра), ці на іншыя вядомыя імёны. Плён іх працы бачылі ўсе. Што да шматлікіх аўтараў-пачаткоўцаў, дык яны, не зведаўшы як мае быць законаў сцэны, нясуць непрыбраны літаратурны матэрыял (у лепшым выпадку) замест п'ес.

**— Але ж з імі можна дый трэба працаваць...**

— І самы дзейсны спосаб — ставіць іх творы эксперыментальна, свядома ўлічыўшы: магчыма, гэтыя пастаноўкі зборaў не дадуць. Стварыць ім умовы трывалай канкурэнцыі, вучыць у тэатры, стымуляваць працу... Толькі вось як гэта ажыццявіць? Ёсць амаль гатовы для лялечнага тэатра драматург — Алесь Асташонак. Ягоную п'есу я адразу ўзяўся ставіць і стаўлю... ужо гады тры. Бо — па-за планам. Бо няма для яе ні грошай, ні часу, які забірае выкананне плана, рэпетыцыйная недаарганізаванасць і г. д. Менавіта таму я зусім не магу зараз ставіць эксперыментальную беларускую драматургію. А яна ёсць, і, далібог, вартая ўвагі!

**— Значыць, грошы і час?**

— А ў нас, лялечнікаў, кожнае мастацкае вырашэнне, кожная вартая прапанова пачынаюцца так: а колькі гэта будзе каштаваць? А канчаецца так: дзе ўзяць час на творчасць? Дарэчы, той самы план павінен даводзіцца тэатру з улікам яго рэальных магчымасцей. Наш план, як высветлілася, спісаны са столі... гадоў пяцьдзесят таму. Ніводная лічба не стасуецца з сапраўднасцю, але Міністэрства культуры, так бы мовіць, натурыцца: маўляў, вы што, лялечнікі, хочаце сапсаваць нам справаздачы? І адначасова заклікае нас ставіць больш беларускай драматургіі, хоць шляхам жудаснай перагрузкі працаўнікоў тэатра яно гэтую беларускую драматургію заціскае! Вось яшчэ красамоўная лічба: на кожны спектакль мы маем па дзесяць дзён рэпетыцый. А ўсё «астатняе» — заняткі з трупаю, дадатковыя рэпетыцыі, акцёрскія паказы — ажыццяўляем за кошт уласнага вынаходніцтва.

**— Але ж пра будучыню вы, напэўна, думаеце? Ці можаце што-небудзь сказаць пра маладых акцёраў? Ці рэальна ім, выпускнікам БДТМІ і пачаткоўцам, у хуткім часе стварыць беларускамоўныя лялечныя трупы ў абласных гарадах, у Мінску, адкрыць новыя тэатры?**

— Вядома, нерэальна. Мяркую, можна было б знайсці для інстытута патрэбную колькасць творчых выкладчыкаў і таленавітых студэнтаў, і нават рыхтаваць апошніх у тэатрах і па-беларуску, але ж тых тэатраў — незапланаваных, дакляраваных ці запраектаваных, а тых, хто ўжо даўно дае спектаклі і прыбыткі, яшчэ... няма! Яны яшчэ не пабудаваныя! (А я тут скарджуся на благую акустыку...) Хутка, мяркую па газетах, узнікне шэраг самаакупных лялечных труп, і гэта выдатна, але яны будуць узнікаць і працаваць там, дзе ім зручна, ставіць тое, што ім выгадна, і на той мове, якую сяк-так ведае большасць насельніцтва рэспублікі. А мы, прафесіяналы, застанёмся таўчы сваё: праграма адраджэння мовы і культуры патрабуе ўкладанняў!

**— Як вы ўяўляеце сабе ажыццяўленне гэтай праграмы сродкамі тэатра? Мы ж да гэтага часу пэўна не ведаем, што і як рабілася ў тэатрах Радзівілаў, Сапегаў, Зорыча, Дуніна-Марцінкевіча, дый Галубка (я маю на ўвазе рэжысёрскія вырашэнні, акцёрскае выкананне, пастановачныя эфекты і да т. п.).**

*На абсягах культуры*

# Музычныя веды — харэографу

Не кожны, мабыць, ведае, што прафесійныя абавязкі кіраўніка самадзейнага танцавальнага ансамбля заключаюцца не толькі ў арганізацыйнай і выхаваўчай рабоце, а і ў стварэнні харэаграфічных кампазіцый для рэпертуару калектыву. Дзеля гэтага неабходныя, апроч іншага, спецыяльныя музычныя веды. Лічыцца, што імі спецыяліст авалодвае ў працэсе навучання ў культасветвучылішчы або ў ВНУ культуры. Але, на жаль, музычнае выхаванне харэографа ў цяперашні час далёка не на належным узроўні. Гэта якраз той выпадак, калі вучаць патроху «чему-нибудь и как-нибудь», арыентуючыся, часцей за ўсё, на праграмы, распрацаваныя для будучых музыкантаў, — без разгляду пытання ўзаемасувязі музыкі і харэаграфіі.

Існуюць аб'ектыўныя цяжкасці даследаванняў у гэтай галіне: «чыстаму» музыканту ці «чыстаму» харэографу патрабуюцца досыць шырокія веды яшчэ і ў сферы сумежнага мастацтва. Таму найбольш істотны ўклад у гэтыя доследы ўносяць музыканты, якія маюць вопыт працы з харэографамі. І тут вялікую цікавасць выклікае метадычны дапаможнік А. Астахава «Праца над музыкай пры пастаноўцы танцаў у самадзейным калектыве», выдадзены летась Рэспубліканскім навукова-метадычным цэнтрам народнай творчасці і культасветработы.

Адметны музыкант, А. Астахаў многія гады прысвяціў працы з харэографамі, што дазволіла яму дакладна заўважыць найбольш слабыя месцы працы кіраўнікоў самадзейных танцавальных калектываў з музычным матэрыялам і знайсці (што таксама вельмі важна) зразумелую для харэографаў мову, каб пагаварыць пра складаныя музычна-тэарэтычныя пытанні. Актуальнасць новага метадычнага дапаможніка, жывая сувязь з рэальнай практыкай — вартасці, якія не так ужо часта сустракаюцца ў аналагічнай літаратуры.

Разгарніце гэтую работу на любой старонцы і чытайце. Думаю, змест яе будзе зразумелы, нават калі вы не маеце адносін ні да музыкі, ні да харэаграфіі, хаця гаворка там ідзе пра дастаткова складаныя праблемы. Прастата, даходлівасць мовы ў дадзеным выпадку вынік не павярхоўнага раскрыцця тэмы, а сталасці і дасканаласці думкі. У метадычным дапаможніку падрабязна тлумачыцца, як трэба выбіраць музычны твор для харэаграфічнага ўвасаблення, як навучыцца не толькі слухаць, але і правільна чуць яго эмацыянальна-вобразны змест, разумець драматургію. Каштоўна і тое, што А. Астахаў прапануе практыкаванні для саманавучання. Прынцыпова важная рэкамендацыя аўтара: пры выбары музыкі для харэаграфічнай кампазіцыі неабходна звяртацца да наяўных твораў кампазітараў-прафесіяналаў, а не патрабаваць складання музыкі ад акампаніятара, непрактыкаванага ў гэтым. Да такой рэкамендацыі трэба прыслухоўвацца ўсім кіраўнікам калектываў, бо саматужныя музычныя опусы невысокай мастацкай якасці шырока распаўсюджаны ў самадзейнасці.

Праўда, далёка не да кожнай харэаграфічнай задумы можна падабраць адпаведны гатовы музычны твор. Асаблівыя цяжкасці ўзнікаюць, калі харэограф звяртаецца да фальклорных вытокаў, Вось чаму паўстае і пытанне аб падрыхтоўцы для самадзейнасці такіх музычных кадраў, якія былі б здатныя да пэўнай кампазітарскай працы, прынамсі, да апрацоўкі народ-



 

 



— Згодны. Тэатразнаўцы аддаюць перавагу пацяшанкам пра іх былую адметнасць. Пры гэтым, аказваецца, не ўсе і не заўсёды зазіраюць у архівы. Памятаю, варта было ў адным спектаклі ТЮГа вывесці на сцэну анёлаў з фіялетавымі крыламі, як крытыкі ўзяліся ўпікаць рэжысёра за безгустоўнасць. І ніхто не здолеў ці не схацеў давесці, што гэта ідзе ад тагачаснага старасвецкага беларускага тэатра — так фарбавалі анёлкаў менавіта ў Радзівілаў. Не ведаем па-людску, не выдаём па-чалавечы Сімяона Полацкага, Уршулю Радзівіл, шматлікія школьныя інтэрмедыі, камедыі, ды хоць бы беларускія пераробкі Мальера, да прыкладу... Паспрабуйце дамагчыся ў бібліятэцы скапіраваць гэтае багацце на ксераксе! Нельга ж бясконца злоўжываць цярплівасцю Адама Іосіфавіча Мальдзіса (да таго ж я не адзін такі «шукальнік»). Так, пры моцным жаданні можна займець усё, але, даруйце, час — грошы, мне тэатрам трэба займацца. А пад рукою — нармальна выдадзеная руская класіка і замежная літаратура і драматургія, за якою не трэба лётаць у архіў і выпрошваць дазволу пачытаць.

**— Хочаце сказаць, што наша няведанне грунтуецца не на гультаяватасці ці нядбайстве, а на абрыдлым «няма дзе ўзяць»?**

— З гэтым мы і дайшлі да свайго пяцідзесяцігоддзя. Як выпраўляемся за межы рэспублікі і краіны, заўсёды аддаём перавагу беларускім спектаклям і абавязкова на беларускай мове, а спектакляў такіх магло б быць у тры-чатыры разы болей. На падставе цудоўнай літаратуры і традыцый (хоць бы батлейкі) змаглі б ажыццявіць яшчэ адзін свой праект — стварыць палітычны тэатр пляца, вуліцы. А згадаць яшчэ непаўторную марыянетачную батлейку, сістэму лялек якой завезлі да нас італьянцы ці венгры; смаргонскіх «акадэмікаў», якія, здаралася, далучалі да сваіх мядзведжых забаў лялек; бывала, наязджалі немцы з «Доктарам Фаўстам», прадстаўляць якога заўсёды дапамагала спрактыкаванае мясцовае насельніцтва (дакументальных сведчанняў менавіта гэтаму я не бачыў, але ж ці маглі немцы абмінуць Беларусь, дзе жылі суайчыннікі?); квітнеў тэатр яўрэйскі і польскі... А чаму б не іграць шопку і вяртэп, тэатр поўдня рэспублікі? Адраджаць такую размаітую і адметную культуру трэба комплексна, а не заклікамі пра лапці і вяртанне да батлейкі.

**— Чым жа скончыць такую «юбілейную» гутарку?**

— Мо сумленным прызнаннем: мы ў тэатры неяк існуём і імкнёмся больш займацца мастацтвам. Вышукваем гістарычную драматургію, выкройваем час на найнавюткую і ўсё-ткі даводзім яе да сцэны. Займаемся не дзіцячым ці дарослым, а пэўным тыпам тэатра. Але шмат што па-ранейшаму ад нас не залежыць, бо я не хачу, каб лялечнікі потам і крывёю зараблялі грошы на пабудову прыстойнае залы, апаратуру, пастаноўкі... Трэба паважаць свой талент.

**Гутарку вяла**
**Жанна ЛАШКЕВІЧ.**
Фота Г. СЛАБОДСКАГА.

**ных мелодый у свабоднай форме. Вопыт кафедры харэаграфіі Мінскага інстытута культуры паказвае, што гэта магчыма пры наяўнасці ў акампаніятара прафесіяналізму, творчых патэнцый, адчування прыроды танца. Трэба толькі арганізаваць спецыяльныя курсы па навучанню канцэртмайстраў, якія працуюць у харэаграфіі, і больш выдаваць адпаведнай навукова-метадычнай літаратуры. Лагічным працягам працы А. Астахава, думаецца, можа быць метадычны дапаможнік «Работа музыканта пры стварэнні харэаграфічнай кампазіцыі ў самадзейным калектыве».**

**Яшчэ адно важнае палажэнне, змешчанае ў публікацыі А. Астахава: выбар музычнага твора ці напісанне павінны ажыццяўляцца на стадыі фарміравання харэаграфічнай задумы — г. зн., калі самога танца няма, ёсць толькі творчая задумка балетмайстра, у самых агульных рысах. Драматургія харэаграфічнага твора павінна распрацоўвацца паралельна з драматургіяй твора музычнага. Толькі такім чынам можна забяспечыць мастацкую паўнаважкасць выніку. Гармонія спалучэння двух самастойных відаў мастацтва, музыкі і харэаграфіі, магчыма толькі на аснове чуйных адносін да ўнутраных законаў кожнага з іх. На жаль, гэтае правіла часта парушаецца, і музыка «падганяецца» пад гатовы танец. Наконт гэтага існуе нават трапнае выслоўе: «зрабіць музыку пад капыткі». Звычайна драматургія такога музычнага твора, давезенага да рангу «абслугоўваючага персаналу», мае прымітыўна-ілюстрацыйны характар, што адмоўна адбіваецца на мастацкім узроўні ўсёй кампазіцыі.**

**Метадычны дапаможнік А. Астахава «Праца над музыкай пры пастаноўцы танцаў у самадзейным калектыве» прынясе вялікую карысць як для кіраўнікоў самадзейных харэаграфічных калектываў, так і для студэнтаў, якія авалодваюць гэтай прафесіяй. Пажадана, каб аўтар працягваў работу, а Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр выдаваў больш адпаведных дапаможнікаў.**

**А. ІЛЬІНА,**
**загадчык секцыі канцэртмайстраў кафедры харэаграфіі Мінскага інстытута культуры.**

*Чытач працягвае размову*

# «РЭПРЭСІРАВАНЫ ПРАВАПІС»

**Пад такім загалоўкам у «ЛіМе» 16 верасня г. г. быў змешчаны ліст групы маладых літаратараў. Яны пісалі, што «сярод нерэабілітаваных дагэтуль ахвяр рэпрэсій 30-х гадоў — наш беларускі правапіс», і выказалі думку аб тым, каб вярнуць нашай пісьмовай мове асімілятыўную мяккасць зычных і чаргаванне «е—я» ў прыназоўніку «без» і адмоўі «не». Ліст выклікаў ажыўленую чытацкую пошту.**

Настаўніца з Баранавіч **Л. Плыгаўка** піша: «Рэформа 1933 года пазбавіла нашу мову найбольш яскравых яе адзнак, і не дзіўна цяпер, што не чуваць мяккасці ў мове сённяшніх беларусаў, бо яна прыходзіць зараз да нас пераважна ў пісьмовым выглядзе. Дзякуй хіба што вясковым бабулям, якія не даюць знікнуць той мове, на якой спрадвеку гаварылі на Беларусі. Апошняе неаднойчы адзначалі мае вучні. У час паходаў яны адразу заўважалі ў мове вясковых людзей нейкую дзівосную мяккасць, якая прыемна лашчыла слых».

Аўтарка ліста не толькі за перадачу на пісьме асімілятыўнай мяккасці зычных гукаў. Яна таксама лічыць мэтазгодным вярнуць пісьмовай мове і пераднаціскное «я». «Па-першае, таму, — піша Л. Плыгаўка,— што яканне — характэрны фанетычны працэс беларускай мовы. Па-другое, я, як і ўсе настаўнікі роднай мовы, тлумачу вучням, што гэты працэс адбываецца толькі ў першым пераднаціскным складзе: лес — лясы. Але чаму гэты закон не дзейнічае ў прыназоўніку «без» і адмоўі «не» ў гэтай жа пазіцыі?»

За неадкладную адмену рэформы 1933 года выказваецца мінскі настаўнік **З. Саўка.** У сваім надзвычай эмацыянальным лісце ён піша: «Сталінізм, выкрыты гісторыяй, дзякуючы рэформе 1933 года працягвае жыць у нашай мове. Колькі мы будзем мірыцца з гэтаю ганьбаю? Трэба «рэабілітаваць» беларускае слова, вярнуць яму графічнае аблічча, адпаведнае натуральнаму, спрадвечнаму гучанню: адлюстраванне асімілятыўнай мяккасці, выкарыстанне фанетычнага прынцыпу пры перадачы галосных, наяўнасць шырокай варыянтнасці і інш.».

**Наш чытач з Мінска С. ГАЙСЯНКОВІЧ — таксама за адмену колішняй рэформы правапісу, вытлумачваючы сваё меркаванне так: «Зараз назіраецца ўздым нашай нацыянальнай свядомасці, многія беларусы вяртаюцца да роднай мовы (я — таксама), і ці ёсць патрэба засвойваць сталінскія догмы ў ёй?»**

**Амаль тое ж самае і ў лісце выкладчыка Віцебскага тэхналагічнага інстытута В. Арлова, пры гэтым ён падкрэслівае: «Асабліва гэта важна для маленькіх грамадзян, якім трэба вывучаць родную мову не папсаванай, каб пасля не перавучвацца яшчэ раз».**

**Аб тым, што трэба вяртацца да колішняга правапісу, які захоўваў фанетычны прынцып нашай пісьмовай мовы, пішуць у рэдакцыю інжынер з Мінска А. Катлянін, мастак з Гародні А. СТУПЕНЬ, рабочы аднаго з мінскіх прадпрыемстваў У. СВІРЫД, настаўнік з Магілёўшчыны А. ЯЖЭВІЧ.**

Студэнты Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава **І. Міхно, І. Куталоўскі** і **М. Гарох,** падтрымліваючы думку аб рэабілітацыі «рэпрэсіраванага правапісу», ліст свой напісалі, кіруючыся тым, колішнім правапісам. Ліст гэты гучыць так: «Пасьля той рэформы наша мова зрабіла яшчэ адзін вялікі крок да адубленьня, агрубленьня і зьнікненьня. Дарэчы, самы лепшы доказ гэтага — наша тэлебачаньне. Паслухайце гаворку таго пісьменьніка, карані якога яшчэ адтуль — з 20—30-х, і гаворку карэспандэнта, што задае яму пытаньні. Мяккая, цёплая, прыгожая і цьвёрдая (цвёрдая), штампаваная, сурагатная. Менавіта зьяўленьнем сурагату, па-нашаму, і тлумачыцца тое, што самі беларусы адракліся ад роднай мовы. Той рэформай была зьліквідавана адметнасьць нашай мовы, пасьля яе склаліся ўмовы для «калькаваньня».

У школе нас вучылі: «Як чуем, так і пішам». Ды, аказваецца, не падыходзіць гэтае правіла. Апошні прыклад —«Слоўнік беларускай мовы», у якім маецца такая форма тлумачэньня: **«Свята (сьв)».** Што, мы ўжо дайшлі да транскрыпцыі? Наша мова сутыкнулася з цяжкасьцямі англійскай мовы?»

Грунтоўны ліст прыслаў у рэдакцыю работнік ВА «Інтэграл» **П. Жаўняровіч.** Ён паспрабаваў зірнуць на гісторыю гэтай праблемы: «Складванне арфаэпічных нормаў сучаснай беларускай мовы пачалося ў XIX стагоддзі. Выданні таго часу стараліся, зразумела, адлюстроўваць жывую народную гаворку, хаця гэта не заўсёды ўдавалася. Замінаў уплыў традыцыйнага рускага правапісу і нераспрацаванасць беларускай граматыкі. Але ўсё ж даволі паслядоўна ў часціцы **не,** што пісалася раздзельна, і прыназоўніку **без** пісалася літара **я,** калі наступнае слова мела націск на першым складзе.. Выданні пачатку XX стагоддзя таксама прытрымліваліся гэтага правіла. І невыпадкова Б. Тарашкевіч у сваёй «Беларускай граматыцы для школ» замацаваў такое напісанне як правапісную норму».

На заканчэнне свайго ліста П. Жаўняровіч піша: «Гаворка, распачатая ў друку адносна рэформы правапісу 1933 года, неабходная. Некаторыя аўтары перасцерагаюць, што яна не да часу, што цяпер трэба сканцэнтраваць намаганні на вырашэнні кардынальнай праблемы — захаванні самой мовы. Думаецца, яны не маюць рацыі. Неабходна абмеркаваць ужо цяпер магчымасць падачы ў буквары і чытанках хоць асобных сказаў з перадачай асімілятыўнай мяккасці і якання: зьмест, песьня, ня трэба, бяз вудаў і г. д. Дзеці будуць адчуваць мову не толькі на слых (калі б яшчэ настаўнік карыстаўся сам ёю правільна), але і зрокава. І тэрмінова трэба навучыць нашых дыктараў на радыё і тэлебачанні правільнаму літаратурнаму вымаўленню: іх жа слухаюць мільёны беларусаў».

Апошнюю кропку ў пісьме аўтар паставіў такую: «Пішу ліст, а па суседству, на кухні, бабуля дае вячэру ўнучцы. Чую дзіцячы голас: «Ня буду есьці!»

Думкамі аб моўнай сітуацыі ў нашай рэспубліцы дзеліцца ў сваім лісце наш чытач з Рыгі **А. Грышкевіч.** Нарадзіўся ён і вырас на Беларусі, пасля апынуўся ў Латвіі, на радзіме бывае наездамі, і з кожным разам заўважае, што тая самая моўная сітуацыя пагаршаецца, што ўсё больш беларусаў адвучваюцца гаварыць на роднай мове. І адну з прычын гэтага А. Грышкевіч бачыць у рэформе 1933 года, якая аддаліла літаратурную мову ад народнай, гутарковай асновы.

Цікавы ліст даслаў у рэдакцыю загадчык музычнай часткі тэатра імя Якуба Коласа **Г. Шэмет.** Падтрымаўшы думку аўтараў ліста «Рэпрэсіраваны правапіс», ён разважае і аб іншых акалічнасцях, якія, на яго погляд, не спрыялі сапраўднаму росквіту нашай мовы, а таксама асветы, культуры. Сярод усяго наш віцебскі чытач згадвае і традыцыю беларускага пісьма «лацінкай» і адзначае, што «лацінка», маўляў, ці не лепш адпавядае гукаваму ладу нашай мовы, а пісьмо ёю мае «больш пекны эстэтычны выгляд».

**Сярод немалой рэдакцыйнай пошты, выкліканай лістом групы маладых літаратараў, толькі адно пісьмо, аўтар якога не падтрымаў выказаных імі меркаванняў. Прыслаў яго пісьменнік і мовазнаўца Г. ЮРЧАНКА. Так, беларускі правапіс, бясспрэчна, патрабуе ўдакладненняў, пагаджаецца Г. Юрчанка. «Але перш чым крычаць: неадкладна давайце пісаць так, як чуем, — гаворыць ён у сваім лісце, — трэба ўзважыць: а што з гэтага атрымаецца. Відаць, і ствараюцца граматычныя нормы, каб ЦЭЛЫ НАРОД засвойваў адзіную літаратурную мову. І наўрад ці можна наогул, а тым больш у Беларусі ствараць адзіную мову па закону «як гаворыцца, так і пішацца». У такім выпадку давялося б не толькі для асобных рэгіёнаў, а нават для раёнаў, а дзе-нідзе і для вёсак ствараць сваю граматыку, правапіс. Калі стаць на гэты шлях, то праз два-тры гады мы перастанем разумець адзін аднаго. Непатрэбнымі зробяцца ні беларускія падручнікі, ні беларуская мастацкая літаратура».**

**Вось так, ні больш, ні менш! Не ўдасканаленне правапісу, а —«шлях у нікуды» (Г. Юрчанка менавіта так назваў свой ліст). Адносна прапановы групы маладых літаратараў замяніць прыназоўнік БЕЗ і адмоўную часціцу НЕ прыназоўнікам БЯЗ і часціцай НЯ ў першым пераднаціскным складзе і пазначаць асіміляцыю зычных па мяккасці мяккім знакам ён заўважае: «Прапанова, прама скажам, нескалькі бянтэжыць». Што ж, і ягоныя катэгарычныя высновы таксама бянтэжаць. Немагчыма зразумець, якім чынам у прапанаваным удасканаленні правапісу ўбачыў Г. Юрчанка «самы просты і лёгкі шлях да разбурэння нарматыўнай літаратурнай мовы»...**

Аддзел пісьмаў «ЛіМа».

# На радзіме Караткевіча

**26 лістапада ў дзень нараджэння Уладзіміра Караткевіча (яму споўнілася б 58 гадоў) у Оршы адкрылася выстаўка, прысвечаная памяці паэта. Яна размешчана ў фае кінатэатра «Перамога». У экспазіцыі фатаграфічны цыкл В. Ждановіча «Уладзімір Караткевіч на Палессі», які складаецца са здымкаў 1969—1984 гг. Некаторыя з гэтых фатаграфій скарыстаны ў афармленні апошняй кнігі паэта «Быў. Ёсць. Буду». Наведвальнікі выстаўкі пабачаць таксама графічныя аркушы беларускіх мастакоў — ілюстрацыі і кампазіцыі па матывах твораў У. Караткевіча. Іх прадставілі М. Купава, П. Драчоў, А. Марачкін, В. Мікіта, А. Шэвераў, А. Кашкурэвіч. Тут жа партрэтны рэльеф У. Караткевіча работы скульптара С. Вакара.**

**На адкрыццё выстаўкі прыехалі мастак М. Купава, літаратар А. Жалязоўскі, фотамайстар В. Ждановіч. Для М. Купавы і А. Жалязоўскага гэта была сустрэча з землякамі, бо абодва яны родам з Оршы.**

**На адкрыцці, акрамя гасцей з Мінска, выступілі загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Аршанскага гаркома КПБ В. Сіванкоў і настаўніца Аршанскай школы № 3 Л. Радомская. Работы мінскіх мастакоў пасля заканчэння выстаўкі будуць падараваны гораду. Магчыма, гэта калекцыя пакладзе пачатак мемарыяльнаму музею Уладзіміра Караткевіча ў Оршы.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ,**
**наш кар.**



 

